«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (198), люты 2023 года





# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 2 (198) (люты)

kamunikat.org/litaraturnaja_bielarus
novychas.online/tags/litaraturnaja-belarus
facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ


Змест



# «Каго любіш? Люблю Беларусь!»

## Да 185-годдзя з дня нараджэння Кастуся КАЛІНОЎСКАГА



Вінцэнт-Канстанцін Каліноўскі (2 лютага 1838—22 сакавіка 1864) — палітычны дзеяч, публіцыст, паэт. Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гадоў на землях Беларусі і Літвы, герой беларускага нацыянальнага эпасу, сімвал нашай духойнай моцы і спаконвечнай прагі да свабоды.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны Гродзенскага павета ў сям'і беззямельнага шляхціца. Род Каліноўскіх герба «Калінава» вядомы з XVII ст. Продкі Каліноўскага амаль сто гадоў валодалі маёнткам Калінава. Пасля продажу маёнтка ў 1836 годзе бацька Вінцэнта-Канстанціна заснаваў у Мастаўлянах ткацкую фабрыку, у 1849 годзе купіў фальварак Якушоўка паблізу мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета, дзе і прайшло дзяцінства Вінцэнта-Канстанціна.

У 1847—1852 гадах будучы рэвалюцыянер атрымаў першапачатковую адукацыю ў Свіслацкім павятовым вучылішчы, пасля заканчэння якога некалькі гадоў пражыў у бацькавым фальварку Якушоўка, дапамагаў па гаспадарчых клопатах і, відавочна, займаўся самаадукацыяй. Вялікі ўплыў на Канстанціна Каліноўскага меў старэйшы брат Віктар Каліноўскі, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце і даследаваў па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі старадаўнія беларускія рукапісы.

У 1856 годзе Каліноўскі паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта на камеральныя навукі. На працягу навучання ва ўніверсітэце прымаў удзел у дзейнасці нелегальных студэнцкіх гурткоў, разам з братам быў сябрам таемнай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі афіцэраў Генштаба, якую ачольвалі Зыгмунт Серакоўскі і Яраслаў Дамброўскі.

Неўзабаве пасля атрымання ўніверсітэцкага дыплома са ступенню кандыдата права, на пачатку вясны 1861 годзе Каліноўскі вярнуўся на Радзіму і распачаў стварэнне на Гарадзеншчыне рэвалюцыйнай арганізацыі. Ездзіў па навакольных вёсках і мястэчках, дзе вёў прапаганду сярод сялян і агітаваў іх да паўстання.

Летам 1862 года Каліноўскі разам з паплечнікамі з Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Феліксам Ражанскім, Станіславам Сангінам, Станіславам Сільвестровічам і Валерам Урублеўскім распачаў выпуск «Мужыцкай праўды» — першай у гісторыі газеты на беларускай мове (выйшла сем нумароў). Яна крытыкавала палітыку імперскіх уладаў, тлумачыла сітуацыю ў краіне, крытыкавала царскі маніфест аб скасаванні прыгону, заклікала сялян да змагання. Кожны нумар «Мужыцкай праўды» быў нязменна падпісаны псеўданімам Каліноўскага «Яська-гаспадар з-пад Вільні».

Кастусь стаяў на чале часткі рэвалюцыянераў, якіх адрозна ад лібералаў («белых») звалі «чырвонымі». Гэты напрамак вызваленчага руху прадугледжваў дэмакратычную рэспубліку, перадачу зямлі сялянам, самавызначэнне народаў былой Рэчы Паспалітай. «Белыя» ж бачылі галоўнай мэтай паўстання толькі аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года.

Актыўная праца Каліноўскага ва ўмовах паўстання на пасадзе ваяводскага камісара паспрыяла таму, што менавіта на Гарадзеншчыне інсургенты мелі найбольш баяздольную, магутную арганізацыю, прыцягнулі да барацьбы шмат сялян.

У чэрвені 1863 года праз поспехі царскіх войскаў і масавыя арышты паўстанцаў Каліноўскі быў вымушаны вярнуцца ў Вільню, дзе дзейнічаў пад канспірацыйнымі прозвішчамі Макарэвіч, Чарнецкі, Хамовіч, Хамуціус. Там ён увайшоў у Выканаўчы аддзел Літвы. Ваенную секцыю Выканаўчага аддзела Літвы ўзначальваў Юзаф Каліноўскі, найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага, які пазней быў абвешчаны святым (св. Рафал) (паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў і краязнаўцаў Юзаф Каліноўскі даводзіўся сваяком Кастусю Каліноўскаму). У Вільні Кастусь выдаў «Прыказ да народу зямлі літоўскай і беларускай». Аднак было позна. Паўстанне на тэрыторыі Паўночна-Заходняга края ўжо было жорстка падаўлена, а асноўныя сілы паўстанцаў — разбітыя царскімі атрадамі.

З восені 1863 года К. Каліноўскі сканцэнтраваў намаганні на назапашванні сіл для новага выступлення ўвесну. Але, выдадзены камісарам Магілёўскай губерні Вітаўтам Парфяновічам, ён быў у ноч на 29 студзеня 1864-га схоплены царскімі жандарамі ў віленскіх Святаянскіх мурах (побач з саборам Св. Яна), дзе хаваўся пад імем Ігната Вітажэнца.

Падчас следства і суду Кастусь Каліноўскі цвёрда стаяў на сваёй пазіцыі і адмаўляўся супрацоўнічаць са следствам. Даўшы паказанні па сваёй уласнай дзейнасці, ён адмовіўся даваць інфармацыю па іншых асобах, якія цікавілі следчую камісію, матывуючы гэта так: *«грамадская адкрытасць з'яўляецца станоўчай рысай асобы, але шпіёнства апаганьвае чалавека <...> маё паказанні па [іншых] асобах <...> не могуць спрыяць замірэнню краю <...> усведамленне гонару, уласнай годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншым шляху».*

Царскі ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць Каліноўскага смерцю на шыбеніцы. 22 сакавіка Кастусь Каліноўскі быў публічна павешаны на гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільні, а затым таемна пахаваны на Гедымінавай (Замкавай) гары ў Вільні, — побач з іншымі лідарамі і ўдзельнікамі паўстання, забітымі расійскай акупацыйнай уладай. Усе магілы былі зроўнены з зямлёй...

У лютым 2016 года на гары Гедыміна здарыўся апоўзень. Гару трэба было тэрмінова добраўпарадкаваць. Перад тым літоўскія археолагі правялі на ёй раскопкі і адшукалі-вывучылі магілы паўстанцаў 1863—1864 гадоў. Першай выявілі магілу Кастуся Каліноўскага. Яго пахавалі са звязанымі рукамі, а саму магілу залілі вапнай. Каліноўскага ідэнтыфікавалі па антрапалагічных прыкметах, у прыватнасці, па форме чэрапа, таксама яго ДНК супаставілі з ДНК прамых нашчадкаў. Аналагічным чынам высвятлялі асобы і іншых 20 паўстанцаў.

22 лістапада 2019 года адбылося ўрачыстае перапахаванне Кастуся Каліноўскага. У грамадскім развітанні з ім і лідарамі паўстання прынялі ўдзел тысячы беларусаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў. Саркафагі з парэшткамі змагароў за волю сваіх народаў з таго часу здабылі вечны супакой у Пантэоне герояў у капліцы на віленскіх могілках Росы.

...З турмы 25-гадовы Кастусь Каліноўскі перадаў на волю «Лісты з-пад шыбеніцы». Вось цытата аднаго з іх: *«...Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і, можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль згінуць за тваю праўду... Няма ш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку... Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу... Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе».*

Паролем паўстанцаў Каліноўскага быў кліч-запытанне «Каго любіш?» і адказ на яго: «Люблю Беларусь!».

# Скарбы жыцця

Максім ГАРЭЦКІ

***Максім Іванавіч ГАРЭЦКІ нарадзіўся 130 гадоў таму назад 18 лютага 1893 года ў вёсцы Меншая (цяпер Малая) Багацькаўка Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні. У сям'і малазямельных сялян Івана Кузьміча і Ефрасінні Міхайлаўны, акрамя Максіма, было яшчэ чацвёра дзяцей: Іван, Парфір, Гаўрыла і Ганна. У васьмігадовым узросце хлопчыка аддалі ў школу граматы (1901—1903), што знаходзілася ў суседняй вёсцы Большая Багацькаўка. Пасля ён працягваў навучанне ў «образцовой второклассной школе» ў сяле Вольшы (1903—1905). Там жа Максім скончыў настаўніцкія класы (1905—1908) і атрымаў правы вучыць грамаце вясковых дзяцей. Праз год паступіў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча.***

***Максім Гарэцкі — аўтар класічных апавяданняў «У лазні», «Стогны душы», «Роднае карэнне», «Рускі», аповесці «Дзве душы», рамана «Камароўская хроніка» і іншых твораў.***

***18 ліпеня 1930 года быў беспадстаўна арыштаваны органамі АДПУ і пасаджаны ў мінскую турму. Сфабрыкаваныя абвінавачванні ў прыналежнасці яго да так званай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» пісьменнік не прызнаў. І ўсё ж у красавіку 1931 года ён быў асуджаны да пяцігадовай высылкі ў Вятку (з 1934 года — г. Кіраў). Пасля доўгага перасыльнага шляху 25 чэрвеня 1931 года выйшаў на «свабоду», свабоду, якая называлася ссылкай.***

***У ноч з 3 на 4 лістапада 1937 года пісьменніка зноў арыштавалі. 5 студзеня 1938 года пастановай тройкі НКУС Смаленскай вобласці яго прыгаварылі да расстрэлу. Прысуд быў выкананы 10 лютага 1938 года ў Вязьме.***

***Творчасць пісьменніка амаль да 1960 года была ў забыцці. Многія тэксты Максіма Гарэцкага — напрыклад, філасофска-алегарычныя, экзістэнцыйныя «Скарбы жыцця», урыўкі з якіх прапануем увазе нашых чытачоў, — выйшлі толькі да стагоддзя з дня нараджэння аўтара…***

1. Браму скарбаў сваіх адчыняю: падходжу і так, падходжу і гэтак, пасяджу, адсапнуся — і зноў адчыняю, псую сабе гумар.

2. Цяжкаватая брама, панурая вельмі, завесы на ёй паржавелі, замок папсаваўся, ключ у замку не хоча круціцца, — замардавала мяне.

3. Падазрона гляджу па баках, асцярожна рыхтую запас тлумачэнняў: можа, госці залучаць, а хто яны будуць?

4. Чакаю спагаднага, блізкага сэрца, але ж брама адчынена ўсім… Хай заходзяць! Прыняць іх гатоў. Цярплів‚ пакорна прымаю: добрым манерам я добра навучыўся…

5. Госці будуць ці не — сам пацешу сябе. Зраблю парад дасягненняў. Набыткі злічу. Новай сістэмы замкі на ўсе тайнікі панавешу.

6. Дабра прыхавана нямала: залатога смутку багатыя скрыні, самацветнай бяссільнасці доўгія нізкі, бясцэннае роспачы буйныя зерні…

7. Адчыніся ж ты, брама, нарэшце! Іржа цябе ела — не з'ела, і замок можна паладзіць, і ключ падабраць…

О мой край! О мой шлях!

Пагляджу я не рамантычнымі вачыма…

Вялікая пустэча стаіць мне ўваччу…

Там пушча, там гай; там бор, там хмызняк; там балота з рэдкім лесам, там сыпучы пясок; вось — стужка вадзяная, вось — голы плех; вось — шэрстка нівы і травы, вось — кучкі, хаткі…

Раўнядзь. Троху-троху пакарбачана…

***

Рудая, лычкастая свіння, з доўгім, голым, маршчынаватым хвастом, са шчэцццю стаяком на хрыбціне, рохкае, рыецца ў сваёй вечнасці…



Вырыла косці — шэрыя, струпехлыя, зямля на іх наліпла; рохкнула і пайшла рыць яшчэ дзе.

***

О мой край! О мой шлях!

Бачу я бясконцы спрадвечны шлях у пустым вялікім полі.

І — падарожнікаў…

Палатняныя хатылі на плячох. Сляпыя вочы. І цёмныя потныя крыжыкі на відных з сарочкі худых грудзёх, там, дзе цьмяны ад сонца пасак на целе.

Наўкола — жудасна-ціхая пустэльня. А ў ёй — шарпанне ног крок за крокам. Жудасна-марудны крок. Вечнасць. Хада…

***

Бачу я поле, жніво. Узмахі жменек жыта, сагнутыя спіны, нахіленыя белыя галовы.

Чую песню. Далёкую, маркотную — і жудасна-спакойную песню. Вечную песню!

І вечнасць варушыцца ў маёй істоце: ідзі, ідзі! Усе ідуць — ідзі ты.

Стапталіся мае лапці, урэзаліся аборы ў ногі, давяць матузы ад хатыля. Ідуць — іду. Узіраюся ў вечнасць.

Пыл, пот, крыжыкі на грудзёх — як у мангола выразаны з каменя абраз змеяпадобнае свінні, — і марудны, а бясконцы крок, вечнасць… Вечнасць!

***

Бачу я высокі, абліты капкамі стол. Драўляныя лыжкі-булдавешкі, нячыстая міска, поліўка…

Мала поліўкі… Пахаваная злосць у грудзёх. Адзін цягне пад сябе, другі — пад сябе. І яшчэ раз, і яшчэ так. Гуляюць у перацяжкі.

Разламілася міска, палілося… Крык, слёзы. Булдавешка стукнула, мокрая ад поліўкі, па тым, што будзе спакойнае, вечнае, непарушна-акамянелае, а на ім — вечнік.

***

Мёртвая вуліца. Снег налятае.

Нечы конь з санямі, прывязаны да плоту. Ён спусціў галаву і стаіць. Ён будзе вечна стаяць.

А там яшчэ сварацца. Яны будуць вечна сварыцца то перастаючы, то ізноў пачынаючы.

Мёртва на вуліцы. А скрыпнула вага пры калодзежы: нехта жыве… У сцюдзёнай хаце сакочуць у падпечны куры… Жыццё, вечнае жыццё!

***

Бачу я карчму і ком белага холаду ў дзвярох, слізкую падлогу і начлежнікаў на парозе…

Чую пах селядца і гарэлкі. Чую храп перазяблага чалавека і кашаль яго як у кадушку.

І драмотныя, сціха-клапатлівыя галасы іхныя, спрадвечных жаласных пустэльнікаў, у бязмернай, засыпанай снегам, сцюдзёнай, цёмнай, безбярэжнай і мутнай пустэльні.

Чую хрып, скрып. Капашэнне ў вечнасці. А гэта — адзін этап. І ўсё!

***

Бачу я поўную хату людзей. Круг. Скачуць.

Скрыпка, бубен: цацкі, прыдуманыя падарожнікамі дзеля палёгкі ў хадзе… цацкі… Полька і кадрыля… Круцяцца…

Смех, жарты. Святкі. Гуляюць падарожнікі. Гуляюць, круцяцца ў безуважнай, немай вечнасці.

І ты — круціся! Вырві маркоту з свайго сэрца і круціся, круціся! Музыка варушыць у табе вечнасць — вечна маркотную, часам вясёлую.

Дык круціся ж, круціся! Не зняважыш гэтым вечнасці. Бо і яна ў табе, і ты ў ёй. Не выскачыш — круціся!

***

Бачу я поўную хату людзей. А ў ёй — новая, белая труна: фуганкам выструганыя шалёвачкі.

Бачу я жоўтае, вечнае, невядомае. Венчык на чале. Сашчэпленыя, вымытыя да сіняга, працоўныя рукі.

Гэта ж ты сам!

Не бойся, не адхіляйся, прыпадзі пытлівым зрокам колькі хочаш, падумай. Паглядзі на сябе, бо гэта ж ты сам…

***

У чорнай цямноце віхор вечных прастораў.

Там раскашуюць і смяюцца, і там церпяць і плачуць. І там невядомая здань бродзіць і бродзіць, шэпча і шэпча…

І троху-патроху ўзнімаецца глухі гоман і тупат агромністай грамады людзей… Нехта, як шалёны, з вялікай злосцю галосіць: «Адвеку мы спалі…». Нехта, як непрытомны, ад вялікага імпэту, падпявае: «І нас разбудзілі…».

Гукі ўсё дужэюць, дужэюць…

І раптам разлягаецца песня, дужэйшая за ўсё тое, што было чуваць дагэтуль. Усё заглушае новая мелодыя, бадзёрая і прыгожа-вялікая: «Паўстань, праклццем катаваны!».

А сумныя вятры вечных прастораў шумяць-шумяць…

***

Радзіўся я ў балоце на купінцы, калі чайцы веснавыя жаласна кігікалі там — кожная над сваім гняздзечкам. Гэты крык маю моц спарадзіў. Што я такою моцаю зраблю?

Праз усе вякі, праз усе эпохі еў я толькі крошкі, што ўпадалі мне са стала паноў жыцця майго. І на гэтых крошках моц мая ўзрастала. Каго ж я такою моцаю адалею?

Убогая родная ніва шаптала мне цьмяныя сненні. Ціхамірныя васілёчкі сінелі мне бедным харастіом. Вось тут моц мая красавала. Як жа я такою моцаю свет заваюю?

***

Светач жыцця майго гарэў цьмяна. Ваканіцы волі мае былі зачынены глуха. Томна было мне жыць

Павялыя васілёчкі, што яна любіла, што яна збірала, — рукі нячыстыя чапалі. Ныла мне вечная рана…

Пасохлую ніву маю тапталі, дратавалі, з гора майго кпілі. Была нязносная мне крыўда…

Скарбы мае, скарбы бясцэнныя! Што з вамі робяць! Як жа мне жыць…

***

І я пайшоў. Старыя парогі пераступіў. Новыя шляхі рассціліліся прада мною. Сілам сваім рабіў парад. Зброю сваю аглядаў. На новыя баі рыхтаваўся… вялікія баі!

Чорная заслона з вачэй ужо спала. Прад вачыма нібы пабялела. Слёзы аблягчэння дробна крапілі мяне, асвяжалі. Дыхаць мне было лёгка і прыемна.

Сеў на шумнабежны воз і на крылах шпаркасці яго ў новыя, нязнаныя прасторы паляцеў. Вольныя вятры веялі мне свежым павевам. Новая эпоха мярэжыла ў тумане…

***

Колькі там хадаў, колькі там выхадаў, высокіх і нізкіх, шырокіх і вузкіх, светлых і цёмных, хадаў і выхадаў жыцця… Якімі ж хадамі было мне пайсці?

Лёс мой — на ростанях стаяць, пэўных дарог сваіх не ведаць, у лесе думак і ўчуццяў блудзіць…

Я клін у сабе нашу. Клін у мяне ўвагналі…

***

Там буйныя краскі цвітуць: п'яная моц слодычу ад іх ліецца… І баяўся я самлець ад тэй моцы вялікай, перавышаючай мае малыя сілы…

Там яна маною д'ябальскаю спакусіць мяне хацела. І схапіла мяне, палужывагапалумёртвага, і ў душу маю смяртэльным пацалункам, як вурдалак, упілася.

Хацела выпіць мяне да дна, каб нічога не засталося ад мяне. І так сціснула мяне корцю сваёю, што аж косці мае захрусцелі…

Маною д'ябальскаю атручала мяне. Я ж вялікую моц пачуў там у сабе: у бяссільнасці сваёй спрадвечнай пачуў…

***

Судзі мяне, судзі мяне кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім, і кожным і ўсякім… Карай мяне карамі сваімі, карай…

Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў…

А выб'еш — буду азірацца на іх з сумам і жалем вялікім, перавышаючым мае слабыя сілы…

Як мне забыцца на іх, пакінутых там, адзаду, на дарозе, у пыле і ў брудзе, на цярнёвай дарозе, якою народ мой ішоў…

***

На баль у хату-пяцісценку я прыйшоў. Сядзеў вясёлы. З правага боку быў у мяне паважаны сват. З левага боку была ў мяне харошая свашка. І сам цымбаліста быў ласкавы са мною.

Па хаце ж, прад вачыма ў мяне, пайшоў пышны карагод. Усе яны былі ў белым, вышываным, у каралях і маністах, у вянкох з каснікамі. Самавітыя, раджайныя… І ўсе — жонкі знатных гаспадароў.

І вось прыглядзіўся я — і скура сшорхла ў мяне ад жаху… жоўтыя, мёртвыя твары… Мерклыя, згаслыя вочы… Ходзяць — трупы жывыя… І зацягнулі па-вясельнаму жудасную мёртвую песню:

— Зя-лё-ны вя-но-чак!..

***

На высокім узвышшы я стаяў. Далёкадалёка вакол сябе балотную даліну і саламяныя вёсачкі бачыў…

Дымы дымяць па даліне… Многа вёсак гарыць… Страшныя клубкі агнявыя з вёскі на вёску пералятаюць… Дзіўна і страшна мне стала.

І прыляцеў агонь да самага жытла майго. Загарэлася пунька ля дому. Гукаў я семядолю сваю і парасткаў сваіх — дарагія рэчы хапаць, дарагія рэчы выносіць…

І страшныя думкі былі ў мяне ў галаве, што ўсё жывое загарыцца, задыміцца, і дым задушыць усё жывое…

***

Страшны бой у мяне быў…

Хлопец худы і доўгі, бедны, з гусінаю шыяю, дроцікам мне ў левы бок, дзе сэрца, моцна кінуў, раніў мяне смяртэльна…

Я за гусіную шыю аднэю праваю рукою яго схапіў, паднімаў, аб падлогу біў, круціў, паднімаў-кідаў, біў — ледзь галаву яму не адарваў, з агідаю канаць кінуў…

Ды сам я — ранены смяртэльна…

***

Божа мой, Божа мой, — што я там бачыў! Ад уваходу направа, налева, і скрозь прад вачыма, на аперацыйных сталах, апушчаных у дол так нізка, — упокат ляжаць мерцвякі… І я з імі легчы мушу…

Цёмна ў яме глыбокай, цёмна! Толькі ўзор павучыны кладзецца на сэрца ярмом нязносным. Роўналежныя лініі — вечнасць. Яны перасечаны тут — гэта моц, што сэрца гартуе…

Заканчэнне на стар. 3 »

# Скарбы жыцця

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 2

Гэтая моц сэрцу майму не пад сілу: яно разарвецца... Я адзін. Іскаркі сыплюцца з воч. У галаве так лёгка, лёгка. Зараз канец, зараз...

Успомні пра выспу Патмас! Там ратунак, збавенне!

***

Сцюжна мне, дымна мне жыць! Многа мерцвякоў я ўбачыў. Розачкі нюхаў. Гарбузы еў... З кульгавым павуком на цэментовым павукадроме час свой бавіў.

Снег ільдзісты пасыпаўся на жыццё маё. Люты мароз заскрыпеў на дарогах маіх. І няма краю ходу майму, няма...

Так хочацца ў цёплае, так хочацца на мяккае. І каб не чуць, не бачыць подлых вар'ятаў. Чаго яны крычаць? Чаго галосяць? Чым я ім дапамагу? Вар'яты крычэлі імя маё.

***

Направа — чырвоныя кветачкі перад хаткаю невядомаю грудком запякліся.

Налева — страшнае бяздонне... Зірнеш — да зямелькі прысядзеш... Беражком, па самым краёчку, як па гострай брытве, трэба ісці...

На горы высокія-высокія, за тым бяздоннем, з вялікім трудам лезу-лезу... Высока-высока ўзлез! Вялікія-вялікія прасторы вакол сябе ўнізе бачу...

***

І з вельмі апалым сэрцам апынуўся я ў склепе пад зямлёю. І піхнулі мяне ў дзверы другога пакою — цёмнага, пустога... У жудасці смяртэльнай упнуўся я нагамі на тым страшным парозе...

І ўбачыў, з жахам убачыў, што там пад столлю... ужо... два... чорныя... мяшкі...

З усіх сіл упнуўся, каб не йсці мне на страшны лёс... І нема закрычаў...

***

Святло згасне, праўда знікне, крыўда запануе... І ратунку жаднага не будзе, не будзе...

Разбой у цямноце начной закіпіць. Пасохлая ніва пасыплецца на чорны дол. Патмосец жаласна заенчыць...

На тым маскарадзе бачыў я страшны хадзячы шкілет. І скамянеў ад жалю...

***

Выйшаў я з муру жыцця свайго на сонца, на вольнае паветра, на ясны свет. Зялёныя дрэвы дзён маіх зашумелі мне борам; прыгожыя кветкі ўчуццяў маіх зацвілі мне лугам. Ступіў я крокаў пяць жыццёваю сцежкаю сваёю і раптам усміхнуўся ад радасці па-дурному.

Выйшаў я за браму смутку свайго з хатылямі, як жабрак. І пайшоў я па незнаёмых мне каляінах чужога царства, як бяздомны валацуга.

Я ішоў, як усе людзі ходзяць: нішто не мулілася мне адзаду ў сумленні маім. Дык радасць сваю не зменшаў. Толькі была яна ў мяне цяпер — ціхая і супакойная: ад пражытых гадоў і ад пражытых дзён...

***

І ўбачыў я перад сабою высокую гару, а на ёй шлях з роўным строем зялёных прысад.

Там сонца свяціла, там была цеплыня. І пацягнула мяне туды старым магнэсам, змагацца з якім не меў я моцы.

Шукаў я радасць сваю, радасць забытых дзён... І быў мне ветрык цёплы і лёгкі... І шырокія прасторы...

Ад радасці я плакаў у думках сваіх. Ад радасці я дыхаў-дыхаў... Ад утомы на зялёную травіцу сеў.

Як там ціха, як там супакойна! Сонейка мне прыпякала. І ногі мае прысталі, і рукі памлелі, усё цела звяла. Размарыла мяне ўсяго радасць мая вялікая!

Не хацеў устаць, не хацеў ісці. Хлебца з кішэні дастаў, укусіў. І быў мне хлебец мой горак і салодак...

***

І спусціўся я ў дол, зайшоў у ціхі закутак. Аблюбаваў мясцінку сабе ў густой, высокай траве, так падобнай да мінулых траў маіх, пад дрэўцамі зялёнымі, так падобнымі да мінулых дрэўцаў маіх.

Разаслаў я там свой чорны хітон. І лёг, ляжаў...

Сонейка мяне грэла. Ціха было вакол. Толькі травы калышуцца шумам бясшумным... І добра было мне ляжаць, добра было мне нікуды не йсці. Ляжаць, не рухацца і думаць...

І было мне радасна і сумна. Думаў я: хай жа ціха ляжыць, хай не варушыцца прытоенае ў сэрцы засмучэнне...

***

І я хадзіў, і я шукаў дзялянку сваю. І я хадзіў, і я прасіў, каб далучылі мяне.

Стаяў перад імі пахілены і праслаўляў моц сваю, каб ацанілі мяне і далі мне сваю міласціну.

Хацеў прасіць як мага прыгажэй, але язык мой адрантвеў і не слухаў мяне.

Хацеў прасіць як мага мудрэй, але думкі мае былі тады — як пнеўе і карчэўе з нетраў цёмнага лесу.

І нікому мае хітрыкі мужствам не здаліся. І быў я толькі дурань, разжалены самім сабою.

Нідзе і нікому не быў я патрэбны слабы — ні ласкавы, ні суровы. Так спрабаваў я сілы свае, ходзячы прасіць міласціну.

***

Бачыў я вялізарныя піраміды белых цёртых касцей. Бачыў я каналы, поўныя тухлай крыві. Страшылды веку скрыгочуць там страшна, і аглушліва, і безупынна. Налпы абея плоці піхаюць там даўгімі дзідамі трупы нябожчыкаў па крыві.

Бачыў я там налпу саміцу, што плакала няўцешна, галасіла голасам вялікім, какосы свае згубленыя аплаківала горка, правa сваё на какосы, неаглядна згубленае, аплаківала ў роспачы нязноснай.

І казалі мне сядзець там і лічыць трупы нябожчыкаў, пасыпаныя на мяса ва ўсе канцы кулі, у вогненныя пасткі страшыдлаў ненажэрных.

І не мог я там сядзець...

***

Белым налётам крыецца бруд. Буду я жыць, каб жыць.

Цяжка мне танцаваць на арэне маёй. Мазгі мае сохнуць, асацыяцыі мае блекнуць. Цяжка аправіцца дрэву з сэрцам усохлым.

На тых берагох валхебнікі вежу збудавалі, а я гоцаю пачвараю...

Людзі цураюцца мяне, каб не запэцкацца аб мяне...

Хто ўспомніць мяне ў ганьбе і выгнанні? Хто прышле мне пару цёплых слоў? Ніхто, ніхто... Хіба гэткі ж баніта, астракіста...

Едзь у залатым чоўне на выспу Патмас. Успаміны маюць вялікую моц. Пачуеш сябе абагрэтым.

***

Багатае-багатае кіно было ў мяне перад вачыма. Убачыў я вайну і мір, і смех і жаль, і праўду і няпраўду, і пакапаныя старыя карані, і на іх месцы маладыя парасткі.

Ідуць дажджы, і веюць сухавеі, і чорныя, страшныя градавыя хмары праходзяць над полем. А ніва ціха зелянее.

І было мне радасна і сумна...

Гэта мне — дары! З краіны, якую мала шанаваў. І ад людзей, якіх мала любіў. А такія багатыя дары!

І ўспомніў я салодкасць маленства свайго... Я, буйвал стары, бязрогі...

***

Пакойся і думай: колькі часу і колькі змен!

Добрым словам спамяні яе заўсёды. На шляхах жыцця свайго спамяні. Добрая, паэтычная, нешчаслівая... Спакойная навекі... На парадах скарбаў сваіх спамяні!

***

Есці я хацеў, а не было чаго. Тлушчу не было, салодкасці не было, і куса хлеба сабацкага мне бракавала.

А я ўсё жор бы і жор ненажэрна, як акула. Вінегрэціку хацеў, капусткі хацеў, нават бульбяненькіх камоў хоць зрэдку хацеў. Зводзіў кожны дзень гэтулькі Божых дароў...

Бруха ў мяне разапнулася, як барабан, вольнасць рухаў маіх у мяне адабрала і палёт думак маіх блазенскіх, чакаў, зусім, нарэшце, звяжа. А я радаваўся па-дурному, што — не пустое, што вятры ходзяць, кішкі парусамі надуваюць...

Пякотка мяне пякла.

І шышкамі балючымі, крывавымі я парос...

***

Хвароб сваіх не мог я злічыць...

Карак мне балеў. Сярэдзіна мне балела. Ныркі мне балелі.

Грудзі мае запалі і нылі і нылі, а кадрылю сваю гралі а гралі. Кашляў, як у кадушку.

Сэрца маё мазурку танцавала. У цёмных каморах я паміраў. І сон мой не падмацоўваў мяне, а толькі страшыў.

Цяжар жыцця сагнуў мяне дугою. Ногі мае не йшлі. Хадзіў, як зморанаы конь ступою.

Кара мяне пакрывала. Дзіч мая расла. Агонь яе не паліў. Забыты, згублены агонь...

Лякарства маё трэба было настойваць цэлы век. І было яно такое, што ніхто ніколі ад яго не паздаравеў і ніхто ніколі не паздаравее.

***

Валасы ў мяне без пары пасівелі. Лысіна разляглася аж да макушкі. І ўся каробка мая нібы зменшылася, нібы аблезла, і аблезлая — свярбела.

Твар мой зморшчыўся без пары, дзікім валоссем зарос. Пяску насыпалася мне пад павекі. Зубы мае расківаліся ў дзяслах, як у гуме, можна было выцягнуць іх пальцамі, пацягнуўшы.

Сядзець мне было мулка: мала мяса засталося ў мяне. Сядзеў на маслаках, абцягнутых працёртаю скураю. І баўталася агуззе маё, як убогая, апусцелая рэч.

Мускулы мае абвіслі: рукі і ногі станчэлі на спіцы; скура здрабла, як у старэнькай бабулі, — чакаў, што скора прылїпне яна да костак.

Голасам гаварыў глухім і сіплым. Хадзіў, сагнуўшыся дугою і валочучы ногі.

Так усё гэта было: прымаў я заплату за працу сваю...

***

Дзверы душы свае хацеў я прычыніць... А пакой жыцця майго быў прахадны. І хадзілі па ім, і снавалі праз яго — безупынку.

І сам сабе ляпіў я похвы на думкі і на словы свае — і добра зляпіць не мог.

Сядзеў, як квакуха на яйках. Але яйкі мае былі баўтуны, і не бачыў я сабе ад іх прыплоду.

Лятаў, як пчолы па красках. Але краскі мае пагорклі, і не сабраў я сабе мёду з іх, салодкага мёду.

І брама скарбаў маіх сівым мохам зарастала.

***

І націснула на душу маю сцюжа. Ціснула а ціснула. Павеяў на душу маю ледзяны вецер, каб яна зусім акалела. І слёзы мёрзлі ў мяне на ваччу.

І тады пачаў разумець я ўсю глыбіню блазенства свайго, усю моц каталепсіі свае.

Пачаў баяцца я ўсяго на свеце, а веры мне не было. Цёмен стаў мой свет. Цесен стаў мой кут. Канец мне прыйшоў...

І думаў я пра смерць сваю і пра Бога свайго. Смерці прыходу чакаў пакорна і панура, як вол даўбні. І не ведаў: блізка ўжо яна, даўбня тая, ці далёка.

Божа мой! Якая часам была мне нуда... Як цяжка было мне, як цяжка...

***

Шукай свой човен залаты! Едзь на выспу Патмас. Даўно там не быў. Духам аскудзеў.

О сонца светлае-прасветлае! Абагрэй ты мяне! Далёкая выспа Патмас! Там прытулак...

***

Божа мой, госпадзі, як было мне цяжка! Не ведаў пачаткаў. Не знаходзіў канцоў. Не ведаў, ці ёй гэта патрэбна ці непатрэбна. Думаў: чаму глядзіць яна на мяне засмучоная, чым яе падвесяліць?

Позна было, позна... Падвесяліць трэба было ў пару. А вось ужо позна. Ведаў жа: сонца яе заходзіць, каротак яе дзень. Аб чым жа думаў? На што спадзяваўся?

І прасіў я ратунку ў выспы Патмас. Словы мае — слёзы мае... Заўтра дванаццатая птушка паляціць. Ідзі, прывітай яе.

***

Будзеш на выспе Патмас. Восплачешь и возрыдаешь горько... І паглядзіць яна весялей на цябе. І палягчэе табе.

Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно — як на далоні. Восплачу и возрыдаю...

***

Браму скарбаў сваіх зачыняю.

Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы.

Дык слава жыццю!

Слава і смерці!

*1932—1935, 1937?*



Максім Гарэцкі з жонкай Леанілай, дачкой і сынам. 1935 г.

# Песні свабоды

## Да 120-годдзя аднаўлення беларускамоўнага друку

Алесь АКУЛІЧ

Беларускае друкаванае слова, з'явіўшыся адным з першых у славянскім свеце яшчэ на світанку XVI стагоддзя, на пачатку стагоддзя XX мусіла адраджацца з неймавернымі цяжкасцямі, нелегальна.

Нашая літаратура была крэўна спалучана з ідэямі, ідэаламі, духоўнымі і сацыяльнымі запатрабаваннямі свайго народа, нацыі. Этапы духоўнага, свядомаснага, нацыянальнага станаўлення беларусаў, як і этапы станаўлення беларускай дзяржаўнасці, гарманічна высвечваюць і этапы развіцця літаратуры. Так, перыяд станаўлення ўласнабеларускай літаратуры (XIV—XV стагоддзі) увекавечваў фармаванне старабеларускай дзяржаўнасці і старабеларускай народнасці — летапісы вялікіх князёў літоўскіх; эпоха Адраджэння асацыюецца з постацямі Ф. Скарыны, Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага.

Не стала выключэннем і XX літстагоддзе, якое было непарыўна звязанае з ідэяй нацыянальнага адраджэння. Больш за тое, менавіта яно тую ідэю нарадзіла, выпеставала і данесла народу. Якраз беларуская літаратура на пачатку мінулага стагоддзя першай уздымала праблемы сацыяльнай і палітычнай свабоды свайго народа, ідэі нацыянальнага самавызначэння і новага дзяржаўнага адраджэння.

Уздым грамадска-культурнага руху ў колішняй Расійскай імперыі на тэрыторыі беларускіх земляў, як і ўздым выдавецкай справы, як і зараджэнне беларускіх палітычных рухаў і партый, пачыналіся ва ўлонні літаратуры. У XX стагоддзі да адраджэння беларускай нацыі і дзяржавы, да распрацоўкі беларускай літаратурнай мовы і яе граматыкі першымі спрычыніліся беларускія пісьменнікі. Яны стварылі першыя беларускія газеты і выдалі першыя беларускія буквары і чытанкі.

Урэшце, гэта яны — беларускія пісьменнікі — распачалі нацыянальна-вызвольны рух на абшарах Расійскай імперыі, гэта яны былі першымі палітыкамі і дзяржкіраўнікамі Беларусі, і гэта яны сталі першымі кіраўнікамі-ўрадоўцамі і Беларускай Народнай Рэспублікі (Вацлаў Ластоўскі, Кастусь Езавітаў, Пётра Крачэўскі, Язэп Варонка), і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Цішка Гартны, Язэп Дыла, Фабіян Шантыр).

Перад беларускім літаратарам пачатку XX стагоддзя стаялі адразу дзве маштабныя задачы: уласнаэстэтычная, мастацкая, і грамадская, дзяржавабудаўнічая.

Як у кожнай з'явы ёсць свой пачатак, ёсць ён і ў нашай літаратуры XX стагоддзя. І пачатак той не быў увянчаны дзяржаўным спрыяннем ці клопатам. Не было беларускай граматыкі, а самае найістотнае — беларуская мова была забаронена ў афіцыйным ужытку. І будзе, напэўна, цікава



Партрэт Аляксандра Ельскага, 1888 г. Мастак Ігнат Урублеўскі

даведацца (пра гэта не пішацца ў падручніках) аб тым, што першай «літаратурнай» беларускай кнігай XX стагоддзя стала выдадзеная ў Пецярбурзе кніга народжанага ў беларускай Ігуменшчыне гісторыка, літаратуразнаўцы, краязнаўцы, пісьменніка, перакладчыка, збіральніка беларускіх старадаўніх рукапісаў Аляксандра Ельскага, кніга, якая мела назву «Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п'яніцы. Добраму Беларускаму народу, на пакрапленне яго душы і розуму…». А затым…

На тэрыторыі Беларусі ў XX стагоддзі ўсё пачалося з таго, што студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута з лідскага павету Вацлаў Іваноўскі купіў напрыканцы 1902 года гектограф (спрошчаны друкарскі апарат для атрымання копій — да 100 асобнікаў — з напісанага ці надрукаванага тэксту), ахвяраваўшы на свой набытак заробак са студэнцкай практыкі. Першае выданне В. Іваноўскага і заснаванай ім Беларускай рэвалюцыйнай партыі — адозва «Да інтэлігенцыі». Адна з галоўных думак, выказаных у ёй, — неабходнасць стварэння граматыкі беларускай мовы і працы па абуджэнні нацыянальнай свядомасці нашага народа (адозва выйшла па-польску).

Затым быў нелегальна аддрукаваны часопіс «Свабода», які меркавалася ператварыць у орган Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Ручную матрыцу «Свабоды» на восем абачынаў зрабіў Вінцэнт Валейка (пецярбургскі гімназіст, зямляк Іваноўскага — нарадзіўся ў фальварку Галавічполь, побач з Лябёдкай Іваноўскіх) і сябар Польскай партыі сацыялістычнай Мілер.

Увесь неабходны матэрыял сябры перавезлі ў сядзібу Іваноўскіх, дзе, па традыцыі, усе сямейнікі збіраліся на святы Вялікадня і Божага нараджэння. Там падчас калядных вакацыяў 1902—1903 гадоў і было надрукавана 200 асобнікаў першага нумара «Свабоды».

«Свабода» адкрывалася двума артыкуламі пра палітычныя варункі і нацыянальную свядомасць беларусаў ды вершам «Добрыя весці» *(1848; 1861 гг.)* Уладзіслава Сыракомлі:

*…Гудзяць вясёла і песні, і танцы*
*У добрым жніве на шчаслівы год.*
*Годзе ж вам, годзе,*
*царыкі-паганцы,*
*Таптаць з балотам хрышчоны*
*народ!*
*Годзе ж вам, годзе ў яснай карэце,*
*Годзе, чыноўнікі, ездзіць у двор.*
*Годзе вам, годзе, мужыцкія дзеці,*
*З хаткі астаткі даваць на пабор.*
*<…>*
*Эй, згіне вораг, як Бог нам паможа*
*За нашу крыўду, за горкі наш жаль.*
*Запяём песню: «Хваліць цябе,*
*Божа!».*
*Лягчэй будзе сэрцу,*
*як згіне маскаль…*

На тым жа гектографе былі нелегальна выдадзены і «Калядная пісанка» (1903 г.) ды «Велікодная пісанка» (1904 г.), у якіх змешчаны вершы Алаізы Пашкевіч, Каруся Каганца ды іншых паэтаў, а таксама пераклад апавядання Стэфана Жаромскага.

Значнай падзеяй пасля выхаду ў свет некалькіх сотняў такіх сшыткаў стала легальнае выданне ў 1903 годзе ў польскай друкарні К. Пянткоўскага (Пецярбург) зборніка вершаў Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны) «Вязанка» і кнігі «Казкі» накладам у 5 000 асобнікаў кожная. «Казкі» падрыхтаваў да друку беларускі пісьменнік, мастак, грамадскі дзеяч Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) — пра гэта сведчыць спецыфічны правапіс (апострафы замест памякчальных знакаў). Ідэя ж выдання беларускіх казак належала В. Іваноўскаму, які пазнаёміўся з Карусём Каганцом у ягонага брата, лідскага лекара Амброжыя Кастравіцкага. Апошні фінансаваў выданне кнігі (яго ініцыялы былі пазначаны на тытульнай старонцы — «А.К.»).

В. Іваноўскі натхніў на кнігавыданне і малодшага брата жонкі А. Кастравіцкага Сцяпана Багушэўскага, на той час студэнта кракаўскага Ягелонскага ўніверсітэта. Багушэўскі прыцягнуў да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў гімназічнай вучобы ў Менску Мар'яна Фальскага (будучага беларускага перакладчыка прозы і аўтара аднаго з лепшых польскіх лемантароў).

У 1904 годзе выйшаў томік беларускіх вершаў «Песні». Ён прызначаўся найперш дзеля адраджэнска-рэвалюцыйнай агітацыі і таму друкаваўся ананім-



Вацлаў Іваноўскі ў перыяд студэнцтва

на (зборнік складаўся з твораў Францішка Багушэвіча, Алаізы Пашкевіч і Каруся Каганца). Да выдання зборніка вершаў зноў спрычыніліся В. Іваноўскі з ужо згаданымі Карусём Каганцом, С. Багушэўскім і М. Фальскім. Выйшлі «Песні» ў Кракаве, дзе С. Багушэўскі і М. Фальскі выдалі яшчэ кнігі «Янка Музыкант» (пераклад апавядання Генрыка Сянкевіча), «Да свайго Бога» (пераклад з Стэфана Жаромскага) і «Ведзьма» (невядомага аўтара). Грошы на выданне В. Іваноўскі атрымаў ад сястры сваёй нявесты — славутай піяністкі Кацярыны Ячыноўскай…

***

12 снежня 1904 года цар Мікалай II падпісаў указ, які здымаў ранейшыя абмежаванні на выкарыстанне мясцовых моў у «дзевяці заходніх губернях Расійскай імперыі», сярод якіх значыліся Віленшчына, Меншчына, Гродзеншчына і Магілёўшчына. Указ нарэшце надаваў свабоду і беларускаму друкаванаму слову.

Для пашырэння кнігавыдання цяпер патрэбна было ўжо сваё выдавецтва. Не атрымаўшы мецэнацкай дапамогі, беларускія асветнікі заснавалі на прынцыпах акцыянернага таварыства выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца». 1 студзеня 1906 года ў ёй налічвалася каля 45 удзельнікаў з укладамі па 10 рублёў. Была ўтворана і ўправа з сямі «сяброў-заснавальнікаў», якія ўнеслі 250 рублёў. Агульны капітал суполкі складаў на пачатку 1906 года 700 рублёў, што і дазволіла распачаць мэтанакіраваную выдавецкую дзейнасць.



Галавічполе. Сядзіба Іваноўскіх (сучасны выгляд)




№ 3.
„Загляне сонцэ
и ў нашэ ваконцэ!"

БЕЛАРУ́СКИ ЛЕМЭНТА́Р
А́БО
Пе́ршая наву́ка чыта́ння.

Цэна́ 6 кап.

ПЕЦЯРБУ́РГ.
Друка́рня К. Пянткоўскага. Вял. Пад'ячэская вул., № 22.
1906.

Першы беларускі буквар XX ст.

Старшынёю ўправы быў абраны В. Іваноўскі, сакратаром — пецярбургскі службовец Уладзіслаў Сталыгва, сябрамі ўправы — прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, жонка В. Іваноўскага Сабіна і яго старэйшы брат Юры (інжынер-тэхнолаг), настаўнік школы пры лютаранскім храме Св. Пятра Уладзіслаў Калашэўскі і Вінцэнт Валейка, на той час ужо студэнт Горнага інстытута.

Першынцам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» стаў «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», напісаў які Карусь Каганец.

На першым этапе (паводле натарыяльнай дамовы ён працягваўся да 1908 года) асноўную рэдакцыйную працу выдавецкай суполкі выконвалі В. Іваноўскі і Б. Эпімах-Шыпіла. У аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь захоўваюцца лісты супрацоўнікаў суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», у якіх дэталёва апісаны этапы падрыхтоўкі першага беларускага лемантара-буквара XX ст. У траўні 1906 года Карусь Каганец атрымаў ад выдавецкай суполкі афіцыйнае запрашэнне да працы. Па даручэнні В. Іваноўскага ліст пісаў В. Валейка:

*«<…> Хай Пан напішэ ксёнжку для дзяцей па-беларуску. <…> Толькі хай яна будзе ў 2-х часцях, каб не надта вялікая. <…> На пачатак прысылаю 10 рублёў за работу. Хай Пан напішэ, колькі будзе стоіць напісанне. За работу плаціць ні Войцік (г.зн. Вацлаў Іваноўскі. — А. А.), ні я, а беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». <…> Хай Пан не баіцца пісаць, колькі вартуе Панскі труд. <…> Мо вы, Пане, маглі б зрабіць рысункі да ксёнжкі? Добра было б. Пішыце і прысылайце першу палову ксёнжкі пад адрасам: С. Петербург, 6-я рота 10, кв. 3. Вацлаву Іваноўскаму».*

Карусь Каганец адразу ж узьмецца за работу. *«Даўней вучылі чытаць год або два, а цяпер і ў два месяцы навучыш, —* пісаў ён у прадмове да свайго лемантара. *— Не паказывай зараз усіх знакаў, а так, як тут напісана: знак за знакам, і адразу вучы чытаць цэлы сказ і слова, склад за складам. Ня так, як раней вучылі: бэ-а — ба, а зразу: б-а — ба…».* (Гэты метадычны прынцып К. Каганца аднавіўся і сёння плённа выкарыстоўваецца ў педагагічнай практыцы — да прыкладу, у апошніх выданнях «Буквара» Анатоля Клышкі.)

А затым нацыянальнае сонца пачало заглядваць у беларускія вокны часцей і смялей…

# Сон з маіх вачэй



Фелікс БАТОРЫН



Фота celes.club

***

*Маладзіковай цёмначчу памкнуся*
*Я ўглыб вякоў, вышэйшую за зоры,*
*І на ляту нідзе не спатыкнуся*
*Аб камяні, карчы альбо разоры.*

*Я дасягну нябачаных ніколі*
*Ў падзорным свеце велічных дзівосаў.*
*Над тым жа, што ляжаць і тлецьме ў доле,*
*Не стаўце вех — пасейце лён ці проса.*

***

*Крыўдна адстаць ад аўтобуса.*
*Горай пад часу адстаць —*
*Быццам бы з іншага глобуса*
*Дурнем прад светам паўстаць.*

*Маем вузельчык для памяці*
*Тым, хто жыве як не ў час:*
*Вы хай ад часу адстанеце —*
*Час не адстане ад вас.*

***

*У тумане звон званоў,*
*Сырасцю прыгушаны.*
*Нібы цацкамі, ізноў*
*Хтось гуляе душамі.*

*Густа выпала раса,*
*Ступакі закляклі.*
*У тумане паласа*
*Чырванню набракла.*

*Ліп і клёнаў Хросны ход,*
*І званы ўсё звоняць.*
*Ні заход, ані ўзыход*
*Нам не забароняць.*

***

*Сон з маіх вачэй бясонне сцерла.*
*Выйду ў сад, дзе вішні зацвілі,*
*Ветрам пакамечаная цемра*
*Сушыцца ад росаў на галлі,*
*Маладзік прыўзняў сузор'і вышай,*
*Ценькія праменьчыкі віе,*
*Цягніком падрапаная ціша*
*Драпіны залізвае свае.*

*Мне вішнёвы змрок душу абдыме,*
*Болем скалыхнутую да дна.*
*Збітая чужымі і сваімі,*
*Пакрысе загоіцца яна.*

***

*Падаюць лісцейкі, падаюць,*
*Мякка на на жвір, на траву.*
*Мне яны сэрца не радуюць:*
*Помню — не вечна жыву.*

*Кружацца лісцейкі, кружацца*
*Сцішана, без алілуй.*
*Хочаш са смерцю падужацца?*
*Гэта не грэх, паспрабуй!*

*Чырванню, вохраю, золатам*
*Свеціцца лісце наўсцяж.*
*Не абы-кім, але волатам,*
*Вочы заплюшчыўшы, ляж.*

***

*Зноў дождж. Па раўчуках лісцё плыве.*
*Зямля ўжо неўзабаве круг завершыць.*
*Я ўсё складаю і складаю вершы,*
*Нібы пакуль хто піша, то й жыве.*

## І станцуць...

*І целы нашы стануць тлом,*
*І душы нашы проста знікнуць,*
*А з рэчаў нашых стане лом,*
*І ўсе наўкол ад нас адвыкнуць.*
*І, трыумфуючы, бяздарнасць*
*Працягне рукі да вянца.*
*Няхай! Сваю мы прымем марнасць,*
*Ды толькі пойдзем да канца.*
*Сам Творца Свету шлях пазначыць*
*Да нашых згубленых магіл,*
*І ў скрусе Азазэл заплача,*
*Бо святкаваць не мецьме сіл.*

***

*У здранцвелым рэдкім лесе*
*Ціха, холадна, паныла.*
*Быў мароз па ўсім акрэсе,*
*Ды паўдня як адпусціла.*

*Анішто не зварухнецца*
*Сярод вусцішы барвовай.*
*І не мае сіл разднецца*
*Дзень, збяднелы напалову.*

***

*Пасівеў, стаў сонца засціць днём*
*Дым, што быў народжаны агнём.*
*Сядземся на пышным юбілеі*
*І агонь у дыме памянём.*

*Не шкадуй, зрабіўшы ход канём.*
*Шчэ не мат, і мы яшчэ гульнём.*
*І, быць можа, ўдасца, што мы пату*
*У змаганні нашым дасягнём.*

*Быў сабака некалі шчанём.*
*Быў і воўк калісьці ваўчанём.*
*Дзякуй Богу, дзеткі, што сягоння*
*Ў ваша заўтра мы не зазірнём!*

*Абнавіўся свет вясновым днём,*
*Толькі пень стары застаўся пнём.*
*Можа ён рассыпацца трухою,*
*Калі толькі мы яго кранём.*

*Конь як ні змагаўся з аваднём,*
*Авадзень насыціўся канём.*
*Колькі б мы ні білі капытамі,*
*А свайго ніяк мы не мінём.*

## Мандэльштам

*Ён быў пакутна палахлівы,*
*Баяўся смеласці сваёй,*
*Што зычыла канец жахлівы,*
*Але не змог пярэчыць ёй.*

*І быў ён праз яе забіты.*
*І праведырскія сыны*
*Зрабілі ўсё, каб быў забыты.*
*Але забытыя яны.*

*Ды зноў выносяцца вірамі,*
*Каб нам нявечыць зрок і слых,*
*І паўстаюць праведырамі*
*Карыкатуры гномаў злых.*

*Куміраў з праху выграбаюць.*
*Нібы па крузе, час бяжыць.*
*Штодзённа б'юць і забіваюць*
*Таго, хто варты вечна жыць.*

***

*Ці ты памятаеш, Дзіма,*
*Наш маленькі дачны сад?*
*Пачынаецца Радзіма*
*З лугавінак і прысад,*

*З ціхіх вулак, што пакінуў*
*Ты на тыдні ці гады,*
*І якія з успамінаў*
*Прад вачмі ўстаюць заўжды.*

*Пра Айчыну сны глядзім мы*
*З настальгічным пачуццём.*
*І канчаецца Радзіма*
*Не на межах, а з жыццём.*

***

*Сам Творца Свету шлях пазначыць*
*Да нашых згубленых магіл,*
*Бо Ён, каб нешта перайначыць,*
*Не мецьме ўсемагутных сіл.*
*І, трыумфуючы, бяздарнасць*
*Працягне рукі да вянца.*
*Няхай. Сваю мы прымем марнасць,*
*А толькі пойдзем да канца.*

***

*Рогі выраслі ў свінні.*
*Людзі кажуць: «Абміні!»*
*Абмінуў бы, але ж рогі*
*Ўсюль, куды ты ні зірні!*

***

*На дне сваёй кватэры гарадской*
*Ляжу сярод ракушак і каралаў*
*І баранюся дрогкаю рукой,*
*Каб ты мяне ані не дакарала.*

*А ты й не дакараеш, а цвіцеш*
*Дзівоснай кветкай ты — марскою ружай.*
*Ты ценькая і кволая, але ж*
*Зламаць тваёй сцяблінкі лёс не здужаў.*

*Не, лёс бурлівы нас не праглыне,*
*Як не зламіў тваёй сцяблінкі тонкай.*
*Калі ж і апынемся мы на дне,*
*Дык не на тым, дзе смецце і падонкі!*

*Жывыя, неўтапімыя бядой*
*Насуперак усім падводным зданям*
*Мы вырасцем са дна і над вадой*
*Прыгожыя і маладыя ўстанем!*

## Субрату

*Па вуліцах нябачанай краіны,*
*Па плошчах небывалых гарадоў*
*Мы ўпэўнена праложым пуцявіны*
*Ад сёння — і праз тысячы гадоў.*

*Упартых нашых сэрцаў перагрузкай*
*І супраціваў веку не стрымаць.*
*І будуць гукі мовы беларускай*
*Наступнікі з удзячнасцю ўспрымаць.*

***

*Дбае свет пра паліва*
*Дзень пры дні няўтомна;*
*Эканоміць каліва*
*І марнуе тоны.*

*Да шчымлення, болю*
*Ўпарта, аж зацята,*
*Дбае свет пра волю*
*І майструе краты.*

*Доля быстрацечная*
*Ў часе хуткаплынным.*
*Дбае свет пра вечнае*
*І жыве хвілінным.*

***

*У бездараў магутныя ілбы.*
*У бездараў асілкавыя плечы.*
*А кулакі як молаты — каб плешчыць,*
*Згінаць, драбніць матэрыял любы.*

*У бездараў сталёвы бляск вачэй,*
*Ільвіны рык ірвецца з іхніх пашчаў.*
*Ім ля кармушкі ўладзіцца б ямчэй,*
*Бо колькі ні жаруць, заўсёды нашча.*

***

*Ходзіць вецер па вулках, завулках,*
*Забіраецца ў тупікі.*
*Як жа цесна яму і мулка.*
*Спачуваю. Я сам такі.*

*Я заблытваўся не аднойчы*
*У жыцця свайго тупіках*
*І маліўся: «Вывядзі, Ойча,*
*На адкрыты і вольны шлях!».*
*Ён мільгаў між платоў нібыта —*
*Вольны, вабны для сэрца майго.*
*Але дзе ён, шлях той адкрыты?*
*Я пасёння шукаю яго.*

***

*Дажджу барабанны дробат,*
*Аж робіцца страшна за дах.*
*Галіны па шыбіне шкробат,*
*Пусціце, маўляў, за так.*

*Гэй, клёне! Чаго ты, разлапаты?*
*Ну што на цябе найшло?*
*Ці ж браў я калі-небудзь плату*
*За дах, за хлеб, за цяпло?!*

*Не д'ябалава я стварэнне.*
*Пусціў бы цябе, бядак,*
*Ды ты ж ад свайго карэння*
*Не адарвешся ніяк.*

*І мне ад свайго адарвацца*
*Няма ні жадання, ні сіл.*
*Трывай, гэта наша праца,*
*Свой крыж да канца нясі.*

***

*Некрануты куток зямлі,*
*Не сапсуты людской дурнотай.*
*Як калоны, стаяць камлі,*
*Шалясцяць хмызы ля балота.*

*Тут прасветленая рака*
*Гулка пляскае важкай рыбай.*
*Перламутравая луска*
*З прагным вокам цвеліцца нібы.*

*У нявусцішнай цішыні*
*Неспалоханы подых ветру.*
*Тут не водзяцца каршуны.*
*Тут няма чым жыць прайдзісвету.*

***

*Было пяцёра нас мужчын*
*І пяць апаражнёных чарак.*
*Мы гаварылі пра жанчын,*
*І кожны досвед меў у чарах.*

*Непераможны кожны быў —*
*Асколкі сэрцаў пад нагамі,*
*Як растаптаныя грыбы,*
*Ляжалі шляхам перад намі.*

*І тут заходзяць пяць жанок,*
*Нібыта пяць царыц пыхатых:*
*— Спадарства, выключай станок,*
*Канчай гусцi, пара хатах!*

***

*Болей толку, меней толку —*
*Бесталачы болей.*
*Каму доля, каму долька,*
*А каму — юдоля.*

*Тлуму колькі, глуму столькі,*
*Двойчы столькі — болю.*
*Каму доля, каму долька,*
*А каму — юдоля.*

*Каму поле, каму полька,*
*А каму ў прыполе.*
*Каму доля, каму долька,*
*А каму — юдоля.*

***2021 г.***

***5 лютага Фелікс Барысавіч БАТОРЫН адзначыў 75-годдзе.***
***Шчыра жадаем нашаму паважанаму аўтару здароўя, радасці і дабрабыту!***

# Два апавяданні



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

## Шкодныя вібрацыі высокага мастацтва

Лабэцкі жыў прыстойна, ён быў «сістэмным» чалавекам: адносіны ў сям'і, побыт, думкі, сяброўства — патрабавалі правілаў, рэжыма, мелі свой расклад, апраўданы пачатак, разгорнуты працяг і лагічную завершанасць, калі да таго ішло. У мінулым — перамогі духа над спакусамі юнацкага нястрымнага шалу, выпрабаванні сяброўскай здрадай, няходжаныя зманлівыя прыступкі хуткай, але коўзкай кар'еры. Нібы самурай, скідаў з сябе Лабэцкі шалупінне лішніх эмоцый, сувязяў непатрэбных, шкадавання аб адцвілай маладосці і чымсьці недасяжным. Усведамленне сябе над сваёй прыродай, над уласнай слабасцю давала сілы, служыла фундаментам і штандарам яго існавання. Не дазваляў помсты, зламыства, крыўдлівасці. Бязсрэбранік. Не нажыў харомаў, багацця, люксавых марак аўтамабіляў: такое цяпер не залічваецца ў актыў, наадварот, нярэдка ў жартоўных спрэчках чуў: калі ты разумны, тады чаму бедны? Ён не меў і патрэбы быць хвалёным усімі.

Як памятае сябе, цягнуўся да эстэтычных уражанняў, да высокага: чамусьці не дацягвала яго… Наведваў музеі, выставы, тэатры, канцэрты, але душа не адгукалася: так — прыемная забава, не больш, хацелася адчуць такое, як пішацца, ачышчэнне, прасвятленне, слёзы эйфарыі… амаль сексуальны аргазм. Альбо не хапала яму досведу, альбо не тое назіраў.

Першы казус здарыўся з ім яшчэ ў студэнтах: паход у высокае абышоўся не тое што блін комам — абарванымі новенькімі туфлямі. Выпраўлены на канферэнцыю ў сталіцу, Лабэцкі набыў сабе, эканомячы стыпендыю, модныя, не танныя імпартныя туфлі. Калі везлі ў заказным аўтобусе з першага паседжання, у акно ўбачыў невялікую афішу — выстава мастакоў такіхта. Афіш па горадзе процьма, дык трэба ж разбірацца, шукаць: дзе, што, калі? А тут пад самым носам. Дарогу больш-менш запомніў. Іншыя студэнты выправіліся абедаць, адпачываць, Лабэцкі падаўся зваротным шляхам паглядзець выставу. За тры гадзіны перапынку між паседжаннямі ён пераадолеў туды-назад кіламетраў дзесяць пешы, бо карыстацца транспартам можна, ведаючы адрас, Лабэцкі ж у памяці трымаў толькі маршрут. Выстава не ўразіла яго ані. Прапанавалі больш чым банальныя краявіды, нацюрморты выпускнікоў мастацкай вучэльні. Адбіўшы ногі туды, — назад Лабэцкі ледзь прыкандыбаў з мазалямі на нагах, аж паспеў пад ад'езд кампаніі на вечаровае мерапрыемства, туфлі давялося выкінуць. Добра, што ўзяў замест тапак паўкеды, згадзіліся на замену. Прывозяць іх у той самы палац, дзе працавалі да паўдня, насупраць выставы, праз якую страціў абутку: глядзі — не хачу!

Ён купляў кніжкі, выпісваў часопісы — каб разбірацца, трэба вывучаць. Ён вывучаў, запамінаў. Каб разбірацца, трэба мець магчымасць параўноўваць. Ён параўноўваў, слухаў запісы — ніяк! Пачынаў падазраваць: людзі яго кшталту глухія да мастацтва, не дадзены ім эстэтычныя пачуцці, не для іх — вышыні.

Ужо цягам месяца ён знаходзіўся ў сталіцы на павышэнні кваліфікацыі — дурная завядзёнка! Нічога карыснага ад збору люду ў кагал на цэлы месяц не прыносіць. З вялікім энтузіязмам далёкія ад сапраўднага працэса вытворчасці лектары начытвалі тэарэтычныя выкладкі і навукова-абстрактныя фантазіі, з арганізацыяй прадпрыемства гэтак жа абстрактна-тэарэтычна счэпленыя. А сур'ёзныя пытанні гадамі заставаліся не вырашаныя. У першыя паездкі на курсы Лабэцкі ўважліва рыхтаваўся, збіраў скаргі рабочых на недахопы ў наладцы абсталявання, звяртаў увагу майстроў і выкладчыкаў на канкрэтныя, жыццёвыя праблемы іх завода, складаў спісы з прапановамі, пытаннямі, заўвагамі. Тут у сталіцы іх жа можна было адразу і разгледзець, у практыку ўвесці. Калі што — прамым ходам у міністэрства. А нікому яно не патрэбна там, ад Лабэцкага адмахваліся, як ад назойлівай мухі. Ён прыціх, адбываў сваю павіннасць. Лабэцкі лёгка мог адмовіцца ад курсаў, бо ў пашане хадзіў пры падначаленых і перад кіраўніцтвам прадпрыемства: ён займаў сваё месца. А хто ж паедзе — даведзены абавязковы план па вучобе; калі той — хворы, гэтая ў дэкрэтным, у каго бацькі прыстарэлыя, дзеці малыя. Неяк склалася, што Лабэцкі часта саступаў. Вобраз? Не толькі. І на рэальных сцежках яму заўсёды выпадала даваць дарогу. Няхай жанчынам, няхай старым людзям, дзявулям, школьнікам… Хто б ні крочыў насустрач — збочыць хаця б дзеля павагі да ўзросту, дзеля прылікі — не здагадваліся. Лабэцкі працаваў над сабой, трэнінгам заняўся па парадзе тэлепсіхолага: у набліжэнні мінака за колькі крокаў спыніся. Стань роўна. Паглядзі ўважліва ў вочы, ледзь-ледзь павярні корпус тулава, пакажы — чакаеш сустрэчнай павагі. Не працуе! Маладыя хлопцы, падлеткі танкам пёрлі насустрач — Лабэцкі апамятацца не паспяваў: бухаў у гурбу снега, саскокваў у лужыну — сіляючы абуткам гразь, падскокваў на бардзюр…

І ад гэтых мусовых камандзіровак адмаўляцца без вялікай прычыны не ўмеў: ехаў раз за разам, як выпраўлялі, кваліфікацыю павышаў. Прыдумаў выхад, як не дарма час траціць: накупляе білетаў у розныя тэатры, глядзіць спектаклі, оперу, балет. Месяц запар узвышае сябе над абыдзёнкай. Пазбягаў заставацца з калегамі ў гуртжытлоўцы. Не адчуваў Лабэцкі еднасці з калектывам. Яны ж вырваліся з дому пабаляваць на ўсю катушку. Многія парамі сустракаліся па дамове не першы раз. Былі стойкія ўбурэлыя тандэмы, былі транзітнікі, «шведскія сем'і», была рэўнасць, разборкі, алкаголь — ракой. Глядзець на ўсё Лабэцкаму не па нутру…

Хутка апошні залік і на вакзал, дадому.

Прадавачка на касе падала пакет, зроблены з незвычайнага поліэтылену — пры дотыку ён даваў моцны трэскат на ўсю краму. Лабэцкі ўявіў сябе з такой паклажай у філармоніі.

— Можа, знойдзецца ў вас цішэйшы пакет?

Жанчына выказала тварам крайняе абурэнне.

— Отойдите от кассы, я вас рассчитала! Не мешайте работать!

Чарга прыняла варожую стойку — не затрымлівай, давай адсюль! Лабэцкі моцна пашкадаваў, што зайшоў у гастраном — мог жа справіцца па дарозе на вакзал, перад адпраўкай цягніка: звычка ўсё рабіць павольна, не спяшаючыся якраз сягоння і падвяла. Цяпер цягайся з торбай сярод культурных людзей, як вахлак! Ладна, пакіну ў гардэробе, супакоіў сябе. Так ужо патрэбны яму былі гэтыя прысмакі. Хочацца парадаваць сямейных.

Пашанцавала Лабэцкаму з жонкай, пáра атрымалася харошая. Лагодную радасць прынеслі ўспаміны аб сям'і, да сустрэчы заставалася зусім нічога.

І ў гардэробе яму не дапамаглі.

— Я отвечаю только за верхнюю одежду. Нет, пакет не возьму! Здесь не камера хранения.

Філармонія поўнілася ўтульнай мітуснёй, і ён нырнуў у прыемны хаос. Лабэцкі выбраў месца з краю, пад ногі паставіў пакет, каб менш прыцягваў увагі. Канцэртная зала, як аркестр на гук ля, была настроена на адмысловую зорку. То справа, то злева, то тут, то там паветра з прыдыханнем рассякала запаветная псіхафанема — «сврск, сврск». І зусім побач жанчына сталага веку, чые плечы пакрываў каўнер з бліскучай пад промнямі масіўнай жырандолі чарнабуркі паверх аксамітнай сукенкі глыбокага адцення цмяна-шэрага, запытала, павярнуўшыся да Лабэцкага вочы ў вочы:

— Леонид Львович под каким номером?

Лабэцкі разгубіўся, ён не ведаў Леаніда Львовіча.

— Саворскі сваёй праграмай завяршае праслухоўванне. — далучылася студэнтка злева.

Прозвішча музыканта нічога Лабэцкаму не нагадала, адразу выслізнула з галавы. Амаль кожны з прысутных трымаў у руках кніжку з крылом раяля над клавіятурай — фотаздымак на чорным фоне вокладкі. Штосьці вывучалі, учытваліся, спрачаліся: томік даваў звесткі біяграфіі, партрэты выканаўцаў, рэгаліі, клас педагога, якую краіну прадстаўляе, і, канечне ж, праграмы трох тураў храналагічна з таймерам.

Па праўдзе сказаць, канцэртаў класічнай музыкі, пры ўсім яго імкненні да высокага, недалюбліваў па простай прычыне: не ведаў, калі хлопаць, калі — забаронена. Было, ад чыстага сэрца, шчыра кінецца пляскаць — адзін! Вакол няўцямныя твары. Няхай сабе, пасля другога нумара дасць волю эмоцыям — цішыня! Пасля трэцяй спробы сцяўся, скоса назіраў за прысутнымі, як тут уся зала ўзарвалася апладысментамі! Было і горш: сем разоў падрад ніхто не рэагаваў на выступленне — сюіта, яму тлумачылі. Купіўся сягоння на параду касіркі. Замест таго, каб да вечаровага цягніка ў асалоду пагуляць па горадзе, падсілкавацца ў харошым кафэ, рашыў высокакультурна забавіцца. Што ў дзённы час прапануюць? Калі ласка! — узрадавалася ветлівая жанчына, у нас тыдзень класічнай музыкі — міжнародны конкурс піяністаў. Першы і другі туры вольны ўваход, білеты не патрэбны. Заходзьце ў любы час з дзесяці раніцы да сямі вечара. Толькі заходзьце між выканаўцамі! У працэсе ігры — ні-ні, не перашкаджаць!

Потым падняла настрой і строгая дама з акадэмічным голасам, якая выйшла на краёк сцэны аб'явіць нумары, зачытала ўрачыста з чырвонай папачкі праграму першага канкурсанта — трыццаць дзве варыяцыі Бетховена і яшчэ пару твораў вядомых усяму свету кампазітараў, а ў канцы прамовы паведаміла: апладысменты дарэчы толькі пасля выканання канкурсантамі ўсёй праграмы. Без праблем! Адыграў чалавек, устаў з-за раяля, бі ў далоні, колькі душа жадае. Лабэцкі адразу супакоіўся.

Ігралі музыканты бездакорна! Ні зачэпкі, ні зазубрыны! Тэхніка — аж свіст стаіць! Прагучала шмат цікавых вядомых і не вядомых Лабэцкаму твораў. Захапіла, уразіла. Катарсіса не перажыў… Асабліва цяжка даваліся трыццаць дзве варыяцыі Бетховена, напэўна, агульная конкурсная п'еса, амаль кожны граў.

Выканаўцы выходзілі на сцэну, сядалі за інструмент, хто за які — стаяла аж чатыры: BLÜTHNER, STEINWEY, YAMAHA, BECHSTEIN. Патрабавалі настройшчыка: рваліся струны — выклікалі спецыяліста. Мянялі, перасоўвалі раялі. Трыццаць дзве варыяцыі! Лабэцкі прыслухаўся: ідэальна роўныя гукі ідэальна роўнымі шыхтамі складалі ідэальна роўныя піраміды, вежы, усё разам выбудоўвалася ў камп'ютарна-ідэальную канструкцыю: забаўна, цікава — душа маўчала…

Западозрыў: ці не дарэмна ўзяў ён на сябе непад'ёмны план.

Уражанне пакінуў Шапэн! Эцюд Лабэцкаму быў знаёмы, чуў, але раней ён іначай гучаў. Літовец, зусім невысокага росту, бялявы, сціплы, падалося — адганяе рукамі матылёў з клавіятуры, з-пад яго кароткіх пальцаў нараджаўся лагодны ветрык, дурэў, гарэзаваў. Літовец не кранаў клавіш, не чулася нот, піяніст ганяў матылёў, а тыя стваралі сентыментальны настрой.

Запомнілася грузінская маладая дамачка. Высокая, як не пад два метры! Яна паволі рухалася па сцэне, а за ёй неслі венскае крэсла. Заўсёды са сваім — ціха патлумачыў хтось з дасведчаных, — возіць з сабой аж з Тбілісі, на чужы не сядзе. Чорныя валасы ніжэй пояса, расплеценыя, хвалістыя. Чорная доўгая сукенка, загадкавы позірк вялікіх чорных вачэй. Не мог чакаць ад раяля Лабэцкі такога гучання! «Кампанэлу» Паганіні ён не першы раз чуў. Твор, пісаны для скрыпкі, папулярным стаў між розных інструментаў. Як сыграла яго грузінская дама! Чароўнае перагуканне званочкаў — срэбраныя званочкі — сапраўдная кампанэла! Прасвятленне аднак затрымлівалася…

Выходзіла акадэмічная дама, аб'яўляла трыццаць дзве варыяцыі, выходзіў наступны музыкант, сядаў за раяль, доўга-доўга падкручваў крэсла пад сябе, адкручваў, падкручваў, адкручваў… Клаў пальцы на клавіятуру і пачынаў разлічваць квартальна-гадавы баланс. Нібы бухгалтар рыхтуе справаздачу: надзейна, скрупулёзна, дакладна, размерана.

Знік настрой. Захацелася есці, разгарэўся апетыт, за тым чамусьці прыйшла раздражнёнасць. Яшчэ, як на злосць, з пакета пачало цягнуць лёгкім водарам вэнджанай паляндвіцы. Гэтага яшчэ не хапала! І нічога з-за траскучага пакета не паправіш, ні схаваць кавалак на дно, далей, ні перапакаваць яго шчыльней, каб пах не прабіўся. Кавалачак пакуль што толькі даваў аб сабе знаць лёгкімі хвалямі, што ад яго далей чакаць у цёплым памяшканні? Лабэцкі пашкадаваў, што не кінуў пакет на банкетцы проста ў фае, ды чорт з ім, няхай бы знаўся! Лабэцкаму падалося: усе чуюць вяндліну і пра яго пакет здагадваюцца. Вось і дама ў чарнабурцы падазрона круціцца, прынюхваецца, напэўна. Трапіў ён не ў свой кампот: меламан хрэнаў! Захацеў нірваны, прагне экстазу, ці як там яно яшчэ называецца: кайф, дзэн? Катарсіс — во! Відаць, не кожнаму дадзена. Няздольны ён адчуваць высокае мастацтва. Жыццё ўбачылася самаробным табурэцікам, збітым коса-крыва, цяп-ляп няўмелай рукой бяздарнага сталяра. Нібы крэпкі, нібы ўстойлівы, а ўсё адно — толькі што дупай прыторкнуцца, а эстэтычнага задавальнення ніякага.

Ён насмеліўся: пакуль акадэмічная дама будзе ў чарговы раз пералічваць дадатковыя да трыццаці двух варыяцый п'есы, ён слізгане да праходу і неяк праравецца паўз рэдуты строгіх «прыўратніц», што вартай выстраіліся ў чырвоных сурдутах ля выхадных дзвярэй.

— Нашу сегодняшнюю программу завершает выступление дважды лауреата международных конкурсов…

Зала раптам уключыла рэжым гатоўнасці, ператварылася ў суцэльны слых, чаканне. Лабэцкі пацягнуўся па пакет, як нібы хтосьці магутны схапіў яго за горла, перацяло дыхаць, полымем агарнула ўсю яго істоту. Ён так і застаўся сядзець, мёртвай хваткай трымаючы пакет: кудысьці сплылі дробязныя думкі, зніклі пустыя хваляванні. Гукі не давалі апамятацца, звалі за сабой, цягнулі, уладарылі над ім невядомай сілай, магічная моц пераходзіла ў яго. То была размова, голас пераможцы над слабасцю, над болем, пакутамі, крыўдамі, над сабой. Лабэцкі адчуў сябе кропляй у акіяне і адначасова, як ні дзіва, тым жа самым акіянам. Падалося — ведае ўсё: дзеля чаго нарадзіўся, дзеля чаго жыве. Яму адкрылася, якое шчасце гэта — жыццё! Толькі яснасць і чысціня, згода… Усё ў свеце так, як і належыць быць.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Два апавяданні

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Але што? Што гэта гучыць? Хто напісаў такую музыку? Ён потым не зможа паслухаць яшчэ раз...

— Як гэта называецца? — запытаўся ён, пакруціўшы галавою, шукаючы дапамогі.

На яго зыркнулі спапяляючыя маланкі вачэй, позіркам гатовых прыцівіць. Толькі студэнтка нахілілася і прашаптала ў самае вуха.

— Бетховен. Трыццаць дзве варыяцыі.

Як?! Тыя бухгалтарскія справаздачы, пераліченыя на костачках рахоўкі, і вось гэта магутная сіла — адзін твор? Чаму ён не заўважаў музыкі раней?

— Гений, — нібы яму ў адказ, у прастору залы нястрымна выгукнула дама ў футравым каўняры.

У грудзях Лабэцкага заказытала, варушылася, пякло, як бы, прачнуўшыся, вулкан пагражаў выявяржэннем. Калі толькі зала ўзарвалася апладысментамі, ён, рады нячутнаму на іх фоне трэскату сваёй ношы, прыціснуў пакет двуруч да грудзей, на дыбачках дробнымі крокамі пусціўся да выхаду, мінуў служак без перашкод. Гэтак жа хуценька праследаваў прасторным фае да прыступак, спусціўся ў падвал да туалета. Ён шпурнуў у стылёвую сметніцу абрыдлую сваю торбу — а не будзе так: кідок не выканаў праграмы зададзенага вектара! Завузкая прорезь металічнай накрыўкі не прапусціла пакет, ён завіс напалову ў паветры, белымі ручкамі-вушкамі вытаркаючыся з чорнага цыліндра, нібы капелюша ілюзіяніста, як дачасу прыхаваны трус.

Лабэцкі заціснуўся ў невялічкую нішу між апошняй кабінкай і задняй сцяной. Абхапіў рукамі чырвоны назызлы твар, затросся ўсім целам. Яго душыла — цярпеў і раптам голасна заплакаў: вырываліся гукі тонкія, візглівыя, нібы сабаку прышчаміла хвост, потым працяглы нізкі ўтробны, бы паранены звер. Ён азірнуўся, як першакласнік. Буйныя слязіны зацякалі ў беражкі расцятых вуснаў, салёныя-салёныя, як марская вада. Па жаночы злізваў іх, выдзьмухваў, адфыркваў... «Зоя, Зойка, Зайчо! — прашаптаў у свае далоні, нібы ў вуха нябачнай жанчыны. — Мы ж маглі быць разам...»

Тым часам у канцэртнай залі працягваліся авацыі. Потым бухнулі цяжкія драўляныя дзверы: раз, другі. Выпускалі гледачоў, мерны, прыглушаны гул паволі набліжаўся да прыступак. Лабэцкі адкруціў кран халоднай вады, вымыў рукі, твар, прамакнуў вочы насоўкай.

У холе выстраівалася чарга. Лабэцкі выцягнуў за вушы свайго грымучага труса, прытрымаўшы нагою ніжнюю педаль стылёвай сметніцы, баючыся абярнуць. Малады хлопец жартам заўважыў:

— Лепшага месца прыткнуць пакет знайсці не маглі?

— Не маглі. Ён тады яшчэ быў маім сябрам, — цвёрда, спакойна, упэўнена адказаў Лабэцкі сам сабе.

Лабэцкі не стаў чакаць грамадскага транспарту — можна ж было пад'ехаць колькі прыпынкаў, — пайшоў праспектам пругкай, нетаропкай хадой. Лёгкі, выструнены, высока ўзнятая галава, твар нібы падсвечаны знутры: некаторыя мінакі заўважалі яго дзіўны стан настрою, углядаліся, саступалі дарогу. У яго галаве настойліва гучалі ўступныя акорды пачутага твора — рубленыя, сухія, хлёсткія, наводмаш, без лішніх эмоцый, упэўнена, ясна, проста... як абсалют, як універсальная формула. Формула нормы.

Формула яго жыцця, падумалася Лабэцкаму.

А восень спатрушыла схованшчы, мяхі і вузельчыкі: аддушы сыпала залатымі з усіх прарэхаў ва ўсе пазёмы: бульвары, скверы, парапеты, газоны, сцежкі, лавы... Зямля спрэс занесена золатам. Столькі жоўтага лісця, дзівіўся ў хоку невядомы японец, здаецца, ніколі не было столькі зялёнага!



Фота crushpixel

### Пашанцавала

Рай навальваўся неяк раптам і нечакана. У апошнія гады савецкай улады, ці то пад смерць Брэжнева, ці то ў сувязі з пераменамі генсекаў, мо ад якога недагляду за цнатлівасцю эканомікі — пацыху «клямары аслаблі». Начальства перастала лютаваць, чыноўнікі зміласціліся выпускаць па камсамольскіх пуцёўках моладзь у турыстычныя вандроўкі за мяжу на двухтыднёвы казачны сон! У прадмагі хлынуў імпартны тавар. Жанчыны апранулі прыгожыя сукенкі, напарфуміліся французскай! Касметыка! Туфлі мадэльныя!

У дзень аванса, палучкі ўсе — гужам у раймаг. Наступным днём на працу — у камуфляжы: аднолькавых сукенках, плашчыках, боціках, з рэдыкюльчыкамі «адзінака пад паху». Тады і купіла Рыта сваё першае натуральнае футра... Ды было ў яе некалі дзіцячае цёплае футрачка хадзіць у садок! Потым пад школу новы руды мутончык бацькі набылі: бліскучы, гладзенькі! Але тое калі было? А ў фільмах: «Моя первая натуральная шуба, мой первый бриллиант!» — як ні стыдзі сябе, як ні кпі і ні стрымлівай — муляе жаночая сутва.

Купіла. Не дорага, усяго за два свае правізарскія аклады. Чорны стрыжаны трус. Нястрыжаны — зусім не той выгляд! Так сабе, звычная, будняя апранаха: кажуць, рудзее, збіваецца ў пасмы. Гэты фасоністы, модны, стылёвы. Падбіўка шыкоўная, атласная ў дробныя кузурачкі: расхінецца выпадкам крысо, як не зашпіліш на ўсе гузікі, махане ветрам — эфектна! Мільгануць ледзь-ледзь далікатныя жаночыя калені ў афармленні яскравай завершанасці. Падабрала адпаведны шаль. На фоне бліскучага чорнага варатніка — полымя малінавага ядвабу, а над ім прыгожы твар маладой жанчыны з вострымі цвічкамі — позіркам іскрыстых вачэй. Сама сабе ў адбітку люстра непазнавальнай падалася.

Апранула Рыта сваё футра за зіму разы тры, дайшло — не той памер купіла, завялікае, з плячэй спаўзае, круцішся на шчупленькай фігурцы. Што рабіць? Футра шкада, грошы шкада — хто ж цяпер купіць за пачатковую цану з рук... Ды яшчэ ў адсутнасць свякрухі з спехам павыразала з бакоў лямцы скуры, каб давесці да свайго памеру, — не памагло — у плячах жа нічога не змянілася, а як прыглядзішся — заўважны самаруч сашчэмлены рубец. От звычка дурная! Не жывецее, пакуль не сапсуе рэч — усё хочацца давесці цюцелька ў цюцельку.

Той час вельмі характэрны быў камісіённымі магазінамі, туды сцякаўся тавар не толькі савецкай вытворчасці — заляжалы і выбракаваны, шанцавала іншы раз напароцца на «клёвы» імпарт, здадзены ў гандль мусовай неабходнасцю. Боязна. Камісіёнкі ў пасёлку няма, трэба ў вялікі горад ехаць, адной. Рыта меркавала справіцца за дзень, утаіць ад свякрухі: раней закіне малых у садок, бягом на рэйсавы, там крутанецца і якраз паспее вярнуцца. Забірае малых і — дома! У свякрухі апошнія ўрокі, не здагадаецца.

Абдумала варыянты: ні з кім па дарзе не размаўляць — куды, навошта — ні словам, у горадзе, па прыездзе, нікуды не заходзіць, нікому не давяраць, нават з таваразнаўцамі на прыёме ў краме — за «так» тавар не аддаваць...

Колькі выпадкаў махлярства: абдураць, акруцяць, гіпнозам затуманяць мазгі.

Прыйшла Рыта ў камісіёнку, а там пад здачу тавара, — чарга «ў тры столкі». Яна адстаяла да паўдня, дачакалася... Паведамілі: «Прыём скончаны. На абед зачыняемся, потым іншыя справы чакаюць... Да заўтра!»

І тут знайшлася вёрткая жанчынка, відавочна прысутная з іншай мэтай — у яе руках не было ношы.

— Сяброўчкі ад невязухі! Давайце хоць пакажам адна адной, што неслі! Чаго ж дарэмна час трацілі!

Чарга заварушылася: хто надзьмуты складаў назад у сумкі сваё дабро, хто ўзрадаваўся, згадзіўся — распакоўваў, паказваў, а хто злосна сыходзіў дадому. Рыта разгубілася: ехала даль і з тым жа клункам вяртацца?! Нясмела вагалася ля дзвярэй. Завадатарка падбегла да яе.

— А што у вас?

— Футра.

— Натуральнае?!

— Натуральнае.

— Паказвайце! — яна адцясніла лакцямі цікаўных, учапілася рукамі ў сумку, каб ніхто не перахапіў тавар. — Я бяру! — не вызнаўшы ні памера, ні расфарбоўкі, ні якасці, аб'явіла жанчына.

Потым ужо, у сваіх руках, уважліва разгледзела футра, «дала» цану, нават не пытаючы — тры Рыціных аклады!

— Бяру! Пойдзем. Пойдзем са мной. У мяне грошы з сабой няма, дома.

Рыта паслухмяна рушыла за жанчынай. Радасная пакупніца задорным вясёлым голасам шчабятала ўсю дарогу, настройваючы сваім аптымізма і Рыту на бадзёры лад.

— Сядаем на тралейбус, тут недалёка, чатыры прыпынкі. Ты пачакаеш мяне, я крутануся ў банк, тут на рагу, здыму з кніжкі.

Рыта безвыходна пратупала за жанчынай пустым дворыкам, нырнула ў няўтульны пад'езд, паднялася на чацвёрты паверх заюдзганым ліфтам, зайшла ў кватэру, прысела на падстаўлены ўслон... Калі жанчына шчоўкнула ключом, замыкаючы за сабой дзверы і Рыта адна засталася сядзець у чужой кватэры без футра (яго пакупніца знесла паказаць сястры), туман пакрыху ў галаве рассеяўся.

Што гэта з ёй?! Як магла вось так, нібы малое дзіця, праігнараваць правілы бяспекі, забыцца на тыя шматлікія пункты, якія ўчора вечарам сабе пазначала і даводзіла?

Аглядзелася вакол — кватэра як кватэра. Чыя яна? Хто тут гаспадар? А што, як жанчына не вернецца? Колькі ёй давядзецца тут сядзець? Хутка рэйсавы.

З лесвічнай пляцоўкі данеслася шкрэбанне: хтосьці нязграбна ўстаўляў ключ у адтуліну: там штось не ладзілася, замок не паддаваўся, з-за дзвярэй ішло нецярплівае сапенне і пчыханне. Нарэшце клацнуў механізм замка, цяжка пераступілі парог, ляпнулі дзвярыма, шпокнула на падлогу шапка, па сцяне слізганула металічнымі гузікамі верхняя вопратка... Было чуваць, як доўга не «злазіў» з ног абутак, штосьці грымнула, важка лязгнула звязка ключоў. І вось нарэшце крокі накіраваліся ў пакойчык, дзе, сцяўшыся, сядзела ледзь жывая Рыта...

У праёме з'явілася магутная постаць нецвярозага мужчыны. Ён здзіўлена з падозрам утаропіўся ў госцю.

— Мяне тут... пакінулі... пачакаць. — не вытрымала мутнага позірку Рыта.

Мужчына хвіліну апрацоўваў інфармацыю, потым з адабральнай згодай кіўнуў калматай галавой.

— Чакайце, — ікнуўшы, дазволіў гаспадар, напоўнены абсалютным даверам да сямейных парадкаў, узначаленых жокай.

Мужчына схадзіў у туалет — доўга цурчэла, рынуўся вадаспад, сцікла, за ім следам выкацілася катушка дыфіцытнай паперы — згроб пецярнёй, старанна трымаючыся аб вушак вольнай рукой, ураўнаважыў хісткасць свайго арганізма, доўга, ашчадна раўняючы краі, наматваў распушчаны хвост гафраванай паперы на шпульку, паклаў яе на кухонны стол, там жа прылёг на канапу...

Праз колькі хвілін вярнулася задаволеная гаспадыня. Справаздачна напаказ пералічыла грошы, паклала на камод, каб — крый бог — не з рук у рукі: будзем абедзьве нішчымніцамі. Рыта сабрала з камода свае купюры, хацела з лёгкай душой выправіцца на аўтастанцыю, жанчына пачала ўгаворваць застацца на абед — не, не, што вы, спазнюся на апошні. Мусіла затрымацца на ўрачыстую прымерку футра. Жанчына, ускінуўшы пакупку на плечы, кінулася была на кухню пазваць у спачувальцы мужа.

— Юрачка, паглядзі, як мне пашанцавала!

Юрачка мерна-салодка пахропваў на дзве чвэрці тэмпа Adagio, ствараючы рытмічным фонам шчаслівую сямейную лагоду дамашняй ўтульнасці.

Жанчына акуратна прыкрыла дзверы, сцішыўшы эмоцыі, на дыбачках вярнулася да люстэрка, з задавальненнем углядалася ў сваё адлюстраванне. Зашаптала, нахвальваючы футра на ўсе лады.

— Яно ж на мяне шытае. І фасон мой, і колерам пад валасы. Шыкоўна на мне сядзіць. А гузікі! Падбіўка! Як жа мне пашанцавала з вамі! Лёгкае, нібы пер'інка. Рукам вольна — майстэрскі крой. Пашанцавала...

«Як жа мне пашанцавала», — паўтарала і Рыта, седзячы на сваім «абілечаным» месцы ў аўтобусе на зваротным шляху. Яна справілася да адпраўкі рэйсавага і нарэшце, бы гару з плеч скінуўшы, супакоілася, не верыла сваім успамінам. «Як жа мне пашанцавала!»

*13 лютага — юбілейны дзень нараджэння ў пісьменніцы Людмілы АНДЗІЛЕЎКА. Жадаем ёй моцы, натхнёнасці і светлай радасці!*

# А час — нібы агонь…



Алесь НАРКЕВІЧ

***

Душа мая — рака зімою.
Ільдом спавітая рака.
Мая душа,
І мне
З табою
Цішком чакаць сакавіка.

***

Жывем — чужыя сярод чужых.
Ходзім тымі ж сцежкамі.
Натыкаемся адзін на аднаго,
Але не заўважаем…
Палімся пад адным сонцам.
Мокнем пад тым жа дажджом.
Ды застаемся
Бязмежна абыякавымі
Да гэтага краю,
Да гэтых людзей…
Быццам злыдні-прыхадні,
Нібыта адвечныя
Безаблічныя мінакі,
Што заўжды спяшаюцца,
Механічна сноўдаючы
Сваім звыкла-абрыдлым шляхам
З «ніадкуль» у «нікуды»…
І ты, шукаючы парушынку
У чыіхсьці вачах, —
Паспрабуй усё ж
Убачыць
Там
Сонца.

***

Напіцца. Закуліцца спаць.
Не быць нідзе,
Не чуць,
не бачыць…
Хлусня смяецца.
Праўда плача.
Жыццё губляе
у вазе.
І час,
як снег,
ідзе,
ідзе,
Халодным
покрывам
кладзецца
На душы,
дрэвы,
дахі,
сэрцы…

***

Ёсць толькі ты
І ў край свой вера…
Капцы дзядоў,
Бацькоўскі дом…
А ўсё астатняе — хімера,
Усё прыдбанае — фантом…
Сапраўднае не мае кошту.
Хіба — жыццё —
і ёсць сам кошт…
А тое, што набыў за грошы,
Рыхтык, і мае вартасць —
грош…
Ёсць тое, што не прадаецца,
Чаго не ўзяць на кірмашах,
Што бачыць здольна
толькі сэрца,
Укленчыўшы каля крыжа…

***

Гартаю дні — жыцця старонкі,
Не паспяваючы разгледзець
І расчытаць, і зразумець
Абзацаў, сказаў, кропак, словаў…



Фота ifehacker

Што скрыта там? Якою мовай
Па мне анёлы будуць пець
У небе белым песняў звонкіх?
Гартаючы жыцця старонкі —
Адрозніць золата і медзь…

У хуткаплыннасці паспець,
Зляпаючы нябачнай знічкай,
Спыніцца ля старой капліцкі…

***

У свеце менее мяне.
І гэта не бяда, вядома…
Хоць спапяляе сэрца стома,
Але й цяпла не дадае.

У свеце менее мяне.
І гэта цалкам натуральна.
Закон жыцця — гэта фатальнасць,
Што і святы́ не абміне.

У свеце менее мяне.
Ў бацькоўскай хаце — пуста.
І нарастае болю згустак,
І безвыходнасць долу гне.

У свеце менее мяне.
І гэта ўсё заканамерна…
А дзе знайсці жалезных нерваў,
Каб быць са смерцю нараўне?!

І як змірыцца з новым днём?
З пустэчаю мне як ужыцца,
Калі не будзе сэрца біцца,
Якое ўжо амаль тваё?

***

І на маіх вачах матыль —
Шукаў святла — здабыў нябыль.
Прабіўся цудам да агню…
Загінуў ён.
Я — каву п'ю.

***

А лістапад рыхтуе да горшага.
Даўно з зімою я не сябрую.
Мне даспадобы лугі някошаныя…
У кветкавых хвалях лета бушуе…
Калі туманы абжываюць поплаў…
І салавей аціхае стомлены…
Дзе хараство з асалодай мяжуе,
Нібыта свет пад цябе зроблены…
А лістапад рыхтуе да горшага.

***

Я — дым без агню.
Я — дрэва без карэння.
Я — студня без вады.
Я — сонца без цяпла.
Я — цела без духу.
Я — неба без зорак.
Я — шлях без прытулку.
Я — песня без слоў.
Я — поплаў без кветак.
Я — храм без вернікаў.
Але —
Усё, чаго мне не стае —
Гэта
Ты.

***

Надакучыла зіма
вельмі.
Замінаюць спаць сны
поўдня.
Халадоў я не баюся,
вер мне,
Але сонца больш люблю
за поўню.
А яшчэ люблю
твае вочы,
Смех, каб ліўся
у самае сэрца,
А таксама я люблю
крочыць
Напрасткі,
куды вядуць чэрці.

***

У Валгалу да продкаў
некалі хачу трапіць і я.
У Валгалу, дзе чакаюць мяне
мае слаўныя пращуры.
Дзе чакаюць мяне — на кані
або без каня —
Выпетранага Часам ды жыццём
прылашчанага.
За вялізным сталом з
тысячагадовага дуб'я,
З мёдам і вінoм, з брагай
і каму што смачнае,
Там мяне сустрэне годная
мая сям'я —
Як сумленне — існая, прысутная,
няхай і нябачная.
На мурах наўкола — мячы —
і дзіўнае з іх ліецца святло…
Жвавая гамонка тых,
хто праз час пракладаў
мне шлях…
Можа, я пачую, можа,
я убачу, зразумею, можа —
як гэта усё было…
Каб у Валгалу да продкаў
некалі мог трапіць і я…

***

За гадзіну — і новы год…
Смех, салюты і карагоды…
Я б хацеў, каб і мой народ
Пажадаў сам сабе свабоды.
Імкнучыся да звышвяршынь,
Не здаваўся бетону столі.
Я б хацеў, каб народ ажыў,
Чалавечае прагнуў волі.
Не хаваўся у пене мрой.
Не туліўся ў хлявах імперый.
Я б хацеў, каб народзе мой,
Ў рэшце рэшт, у сябе паверыў.

***

Аднойчы прыходзіць стома.
Ў які-небудзь ціхі вечар.
Калі ўжо усё вядома
(а зведанае — пустэча).
Ніякіх не трэба словаў.
Зусім не цікавяць планы.
Ўсе мары мае — удовы.
Ўсе мроі — без капітана.
Святла не палю
і зданню
Блукаю за знічкай-часам.
Ужо не баляць пытанні.
Ужо не смыляць адказы…
У свеце далёкім, блізкім,
Праз існасць і навукі —
Важней за усё — калыска,
Што гушкаюць маміны рукі.
І ціхая калыханка,
І смачнае цяпло смочка,
І светлая ўсмешка ранкам,
І нібыта неба — вочы.

***

Я нікому не дакучаў.
Я нікога не павучаў.
Не бажыўся, не абнадзейваў,
Проста марамі свет засейваў.

Бачыў Сонца — і бег за ім…
Часам, нават хапала сіл,
Каб і Небу з быў сваім,
Каб і Бог на руках насіў.

І ў самоце не смяг адзін.
Аж гарэў ад жадання жыць.
Трошкі вершыкаў нарадзіў,
Каб па-чорнаму не грашыць.

***

Імжыць.
Нібыта — з неба словы
Казычуць прахалодай твар.
Ім жыць
І кожны раз нанова
Складаць камусьці лемантар.
Вучыць
Пра вечнасць і прастору,
Пра час, пра існасць,
Сэнс і сутнасць,
Каб апраўдаць
тваю прысутнасць
Ў вар'яцкім чалавечым моры,
Якое ні ў журбе, ні ў горы
Не заціхае,
Не маўчыць…
Імжыць.

***

Адкуль паходзіць сумленне?
З чаго яно прарастае?
Мо гэта боль пакаленняў,
Што памяць роду збірае?

Мо гэта збой ў храмасомах?
У ДНК тваёй хіба?
І ты не жор ўсіх знаёмых,
Калі яшчэ зваўся рыбай.

Хай ад стварэння — драпежнік,
(Відаць, таму толькі й выжыў…).
І ўсё ж такі ведаеш межы,
Дзе мусіць сціхнуць твой выжал…

Глыбока — у лёхах-пячорах
Сумуе твая пачвара.
Ці прыйдзе той надвячорак,
Калі адчыніш падвалы?

А нехта гойсае быдлам
І ні аб чым не бядуе.
Сумленнем, нібы павідлам,
Ў раздроб і гуртам гандлюе.

***

У адной з камер
сэрца майго
увязнёная ты
ўжо навечна.

***

Надзея толькі на Людзей…
А на каго ж яшчэ, мой Божа?
Між зор да зор у падарожжы
Надзея толькі на Людзей…

***

Падсумаваць.
Пасумаваць.
Пералічыць.
Перагартаць.
Што засталося?
Попел? Дым?
Паленне кінуўшы ў камін,
Жыццё сваё перачытаць.
Яно — як полымя:
І ёсць,
І не схапіцца,
І пячэ…
А час —
Нібы агонь — цячэ.
І астывае недзе ў нас.

# Знаходка



Віктар ВАРАНЕЦ

Калі гадзіннік на сцяне адбіў 14 гадзін, прыгожая маладая сакратарка з пагонамі унтэрштурмфюрэра СС паднялася са свайго месца, адчыніла дзверы ў суседні кабінет і ветліва запрасіла прысутных:

— Праходзьце, панове, вас чакаюць.

У вялікім светлым пакоі стаяў доўгі стол у форме літары П, за якім сядзеў яшчэ не стары хударлявы мужчына, засяроджана праглядаючы нейкія паперы. Гэта быў камісар Гродзенскага ўезда фон Пец. Адзін за адным у кабінет прайшлі начальнік Гродзенскага гестапа оберштурмбанфюрэр Эфрэліс, камендант Гродзенскага гета № 1 штурмбанфюрэр Візо, начальнік жандармерыі Раймунд і начальнік гарадской турмы Шэдэль. Гаспадар кабінета рухам рукі запрасіў усіх сесці за стол. Счакаўшы з хвіліну, фон Пец пачаў гаварыць:

— Панове, часовыя поспехі рускіх прымушаюць нас крыху мяняць тактыку вайны. Патрэбны час, каб сканцэнтраваць усе сілы ў адзіны кулак, які канчаткова разаб'е бальшавіцкую зграю. Так, мы будзем змагацца за Гродна. Як і за іншыя гарады, але на сённяшні дзень супраць нашых шасці ўзмоцненых дывізій актыўна дзейнічаюць войскі 2-га і 3-га Беларускіх франтоў, і яны ў разы перавышаюць колькасць нашых салдат. Задача нашых доблесных дывізій — стрымаць на Беластоцкім накірунку праціўніка, каб даць час перафарміраваць ваенныя часткі, падцягнуць свежыя сілы з еўрапейскіх краін і тады нанесці контрудар.

Камісар на хвіліну спыніўся. Госці слухалі моўчкі, не адводзячы позірка ад стала. Фон Плец дастаў з папкі паперу і пачаў чытаць:

«Сакрэтна. Загад № 94. Тэрмінова правесці мініраванне найбольш прыдатных для адміністратыўнага функцыянавання будынкаў горада Гродна. Скласці план замініраваных кропак. Прызначыць камандзіра дыверсійнай групы, укараніць яго ў мясцовае асяроддзе. Справаздачу аб выкананні і 1 экзэмпляр плана ў пяцідзённы тэрмін накіраваць у Генеральны камісарыят «Беларутэнія». Лічым мэтазгодным прыцягнуць да выканання загада асоб габрэйскай нацыянальнасці і асоб, якія знаходзяцца пад арыштам у гарадской турме. Пасля выканання задання правесці поўную ліквідацыю дадзеных асоб. Подпіс. Генеральны камісар Беларусі Курт фон Готберг».

— Такім чынам, панове, мы павінны выканаць гэты загад.

Шэдэль падняўся з крэсла.

— Дазвольце пытанне, спадар камісар.

— Слухаю Вас, штурмбанфюрэр.

— Я не зусім зразумеў, які сэнс у мініраванні, калі мы пакінем горад на непрацяглы час?

— А сэнс у тым, што ў горадзе размесцяцца ваенныя і адміністратыўныя службы рускіх, будуць арганізаваны склады з харчаваннем і боеприпасамі. І пры нашым контрудары ў тыле бальшавікоў усё гэта ўзарвецца. Адчуваеце, які ўзнімецца вэрхал, якая пачнецца паніка? Так мы дапаможам нашай арміі. Яшчэ ёсць пытанні?

Усе адмоўна заматалі галовамі.

— Тады давайце падрабязна абмяркуем сам план мініравання…

Мікалай Ягораў ужо чацвёртую гадзіну гартаў падшыўку нямецкіх дакументаў, пасылаючы няспынныя праклёны ў свой адрас: «Ну і трэба было табе браць такую дурную тэму дыпломнай работы: "Нямецкая штабная лексіка перыяду ВАВ"? Ёсць жа і турыстычная лексіка, і архітэктурная. Не, паслухаў парады навуковага кіраўніка. Гэтым ніхто не займаўся… І што, я таксама не хачу гэтым займацца».

Мікола вучыўся ў лінгвістычным універсітэце, спецыялізаваўся на нямецкай мове і марыў разбагацець. Таму хапаўся за любую працу: працаваў гідам, перакладаў тэхнічныя тэксты, даваў прыватныя ўрокі. Але багацце было мізэрнае. А вось каб адразу і шмат… А тут яшчэ выпісвай гэтыя тэрміны з розных загадаў. Гэтую падшыўку, пэўна, з вайны ніхто не браў: саронкі пасклейваліся, роўненькія, непакамечаныя.

Ягораў адгарнуў чарговую старонку і раптам убачыў надпіс «Сакрэтна». Да загада быў прымацаваны аркуш з нейкім планам. Хлопец пачаў чытаць. Хвілін праз дваццаць адсунуў падшыўку і ашалела агледзеўся навокал. У невялічкай зале Нацыянальнага гістарычнага архіва, апроч яго, нікога не было. «Вось гэта падфарціла!» — мільгатнула ў галаве Міколы. Узяўшы сябе ў рукі, ён спакойна і няспешна выйшаў у суседнюю залу, дзе стаяў ксеракс, і папрасіў скапіраваць два дакументы. Заплаціўшы грошы і атрымаўшы паперы, вярнуў падшыўку супрацоўніцы архіва, падзякаваў і пакрочыў у свой інтэрнат. Дзякуй Богу, суседзяў па пакоі не было. Мікола выцягнуў ксеракопіі і пачаў зноў іх перачытваць. Так, гэта быў сакрэтны загад аб мініраванні Гродна 1944 года, да яго прыкладаўся план замініраваных будынкаў. І такіх налічвалася 16. Агульная колькасць закладзенага траціла пазначалася як чатыры тоны. Чатыры тоны! Гэта ж горад можна зруйнаваць ушчэнт. Цікава, ці ўсе яны размініраваны? А калі не ўсе, дык можна траціл прадаць па добрай цане.

Раніцай у суботу Ягораў паехаў на маршрутцы ў Гродна. Дзякуючы інтэрнэту ён даведаўся, што ўсе пазначаныя дамы стаяць і па сённяшні дзень. Для пачатку выбраў чатыры, у якіх і колькасць закладзенага траціла была вялікай і ў якія, на думку Міколы, лягчэй было трапіць.

Па адрасе Ажэшкі № 3 стаяў былы палац віцэ-губернатара Максімовіча. Вялікі прыгожы будынак 1803 года пабудовы шмат пабачыў на сваім вяку. Цяпер там мясціўся рэстаран «Каралеўскае паляванне». Ягораў зайшоў у двор дома і ўбачыў, як грузчыкі няспешна выцягвалі з машыны скрыні і адпраўлялі транспарцёрам у падвал будынка.

— Добры дзень, — прывітаўся з імі Мікола.

Мужыкі падазрона агледзелі хлопца, закурылі, выпусцілі клубы дыму, пасля чаго маладзейшы з іх запытаў:

— І што?

— А можна схадзіць у падвал будынка, сфатаграфаваць? Я студэнт-гісторык з Мінска. Мне для навуковай працы гэта трэба.

— Студэнт? — перапытаў другі грузчык.

— Так, вось і мой студэнцкі, — Мікола выцягнуў з торбы білет і паказаў мужчынам.

— І што нам з гэтага? — зноў пацікавіўся маладзейшы.

— А я вам дам на бутэльку.

— На дзве вермуту, — паправіў яго старэйшы.

— Добра, — пагадзіўся Ягораў, — дамовіліся.

— Тады на адну зараз, а на другую, як сфатаграфуеш.

Мікола адлічыў грошы, малады тут жа выхапіў аднекуль пакет і пабег у магазін. Яго напарнік павёў хлопца ў невялічкія дзверы, за якімі ступені вялі глыбока ўніз. Ён пстрыкнуў выключальнікам, і ў калідоры стала светла. Нарэшце яны спусціліся ў вялікі халодны падвал, застаўлены рознымі скрынямі, мяхамі, каробкамі.

— Фатаграфуй, — хмыкнуў праважаты.

Ну і як тут праверыш? Мікола пару разоў шчоўкнуў камерай і, панурыўшыся, падняўся наверх. Што рабіць? І тут Міколу прыйшла цудоўная ідэя. А нашто яго самому правяраць, пераносіць тавар? Ён жа можа проста прадаць карту з кропкамі, дзе схаваны траціл. А новыя гаспадары няхай



Фота vgr.by

самі тлумяць галовы, як вынесці. Тады пытанне: дзе знайсці пакупніка? Аб'яву ў газету не дасі. І ўвогуле, каму можа спатрэбіцца столькі выбуховага матэрыялу? Адказ узнік тут жа. Канешне, каўказцам! Яны ж увесь час ваююць, штосьці ўзрываюць, праводзяць нейкія тэрарыстычныя акцыі. І грошы ў іх ёсць. Павесялелы Ягораў вырашыў заўтра ж пахадзіць па Паўднёвым рынку, паразмаўляць з прадаўцамі скуранога адзення. А сам рушыў у хостэл здымаць месца на ноч.

Дзверы ціхенька рыпнулі, і ў кабінет палкоўніка КДБ Сонцава ўвайшоў начальнік інфармацыйна-аналітычнага аддзела маёр Сівец.

— Дазволіце, таварыш палкоўнік? — запытаў маёр.

— Так, Іван Іванавіч, сядай. З чым завітаў?

Сівец прысеў у крэсла насупраць начальніка.

— Ад нашых назіральнікаў атрымана інфармацыя, што ў горадзе з'явіўся нейкі студэнт з Мінска, завуць Мікалай, і ён, не паверыце, ходзіць сярод гандляроў з каўказскіх рэспублік і прапануе купіць у яго траціл.

Сонцаў ад здзіўлення ажно зняў акуляры.

— Што за траціл? Са снарадаў выплавіў?

— У тым і справа, Сяргей Віктаравіч, што ён прапануе не менш за чатыры тоны узрыўчаткі.

— Аферыст?

— Правяраем, таварыш палкоўнік. Я даў заданне Графу пазнаёміцца з гэтым Мікалаем, паабяцаць дапамогу і так далей. І я думаю, што ён не падманвае. Граф паведамляе, што хлопца ўжо паабяцалі звесці з патэнцыяльнымі пакупнікамі з арабскіх краін. Але гэта, зноў жа, неправераныя факты.

Сонцаў падняўся з-за стала, зрабіў некалькі крокаў па кабінеце.

— Гэта, маёр, вельмі важная інфармацыя. Можа, канешне, і проста блеф. А калі не? Уяўляеш: чатыры тоны ўзрыўчаткі ў нашым горадзе. Рай для тэрарыста. Таму шчыльна займіся гэтым Міколкам і трымай мяне ў курсе спраў.

Ягораў сядзеў пад парасончыкам летняй кавярні на Савецкай вуліцы і з асалодай еў вялізны чэбурэк, запіваючы халодным півам. Увесь дзень яго быў вольны. Сустрэча з Ахмедам, які абяцаў прывесці пакупніка, была прызначана ажно на дзявяць вечара. Таму хлопец адпачываў, гледзячы на групкі турыстаў, што шчыльна акупавалі цэнтр старажытнага Гродна, і пасмейваючыся з іх. Яны трацяць свае грошы, а ён, Мікалай Ягораў, сёння стане заможным чалавекам. Раптам да стала падышла рослая, прывабная з выгляду бландзінка ну ў вельмі кароткіх шортах і маленькім топіку, у руках — кубачак кавы і нейкае пірожанае. Яна агледзелася вакол і прысела да Мікалая:

— Даруйце, ці не занята ў Вас? Тут самы цянёк…

І так прыемна-збянтэжана ўсміхнулася…

— Калі ласка, — падхапіўся хлопец. — Сядайце, канешне.

Яны з хвіліну моўчкі елі, і ўвесь гэты час Міколу адольвалі розныя пачуцці: ад захаплення прывабнай дзяўчынай («Вось бы пазнаёміцца!») да адчування ўласнай зрэбнасці («Божухна, як жа, пэўна, ад мяне смярдзіць чэбурэкам і півам). Дзяўчына ж, пакаштаваўшы чыскейк і зрабіўшы глыток кавы, раптам весела рассмяялася. Мікола здзіўлена ўзняў на яе вочы.

— Даруйце, — патлумачыла дзяўчына, — сёння такая спёка, і мне так хацелася халоднага піва, але неяк адной не выпадае піць, таму ўзяла гарачай кавы. А цяпер гляджу на Вас і шчыра зайздрошчу. Добра ж Вам, мужчынам!

Невядома адкуль на Ягорава накаціла смеласць, і ён нечакана нават для самога сябе прапанаваў:

— А давайце разам пап'ём піва. Я збегаю!

Дзяўчына ўважліва паглядзела на яго і пагадзілася:

— А давайце, толькі плачу я сама, а Вы прынесяце. Добра?

Мікалай і Алена (так звалі дзяўчыну) прасядзелі не менш з гадзіну пад парасончыкам, потым доўга гулялі па вулачках горада, пакуль Ягораў не ўспомніў, што праз паўгадзіны ў яго сустрэча з кліентам. Што ж рабіць: і дзяўчыну пакідаць шкада, і сустрэча патрэбна. Таму ён асцярожна прапанаваў новай знаёмай:

— Алена, у мяне тут тэрміновая справа. Трэба ўбачыць аднаго чалавека вось у гэтай кавярні. Ці можам мы сустрэцца пазней?

— А доўгай будзе ваша сустрэча? — пацікавілася Алена.

— Ну, думаю, хвілін дваццаць.

— Дык я таксама пасяджу тут за суседнім столікам. А потым пойдзем пагуляем. Нешта мне не хочацца развітвацца з табой.

Мікола адчуў, як яго накрыла хваля шчасця і задавальнення.

— Выдатная ідэя! — падхапіў ён.

Каля дзявятай гадзіны яны вярнуліся ў кавярню, Мікола сеў за адзін столік, Алена — праз два ад яго. Прайшло пятнаццаць хвілін, але ніхто да Мікалая не падыходзіў: ні знаёмы ўжо Ахмет, ні патэнцыяльны пакупнік.

«Штосьці сарвалася, — падумаў хлопец. — Ну што ж, пачнём па новай. Добра, што Алена тут».

А Алена тым часам падышла да хлопца і села насупраць.

— Ну паказвай, што прынёс, — ужо зусім іншым тонам прамовіла дзяўчына.

— У сэнсе… паказвай? — не зразумеў Мікалай.

— Мне Ахмет сказаў, што ў цябе ёсць тавар. Траціл. Гэта так?

— Так, — збянтэжана пацвердзіў Ягораў. — А ты і ёсць пакупнік?

— Я і ёсць, — пацвердзіла Алена.

Ягораў дастаў з сумкі план і, яшчэ канчаткова не апрытомнеўшы ад нечаканасці, пачаў расказваць, што да чаго.

— Ну ўсё гэта яшчэ трэба праверыць, — даслухаўшы хлопца, сказала Алена. — Якая твая цана?

— Сто тысяч даляраў!

— Ну гэта смешна. Дваццаць, і толькі пры ўмове, што ўсе схованкі на месцы.

Мікола нават пакрыўдзіўся.

— Тады я знайду іншага пакупніка.

— Ага, — пагадзілася Алена, — дастаткова даць рэкламу на АНТ. Пакупнікі хлынуць.

Яна паклала руку на каленка хлопцу.

— Не выдурняйся, Мікола. Гэта не жартачкі. Зараз ты даеш мне адзін з адрасоў, які я выберу, і план яго мініравання. Я праверу, ці ёсць там тавар. А заўтра заеду па цябе на чырвонай «Джылі» № 3232. Тады і атрымаеш грошы. Зразумела, калі ўсё пацвердзіцца.

Узяўшы адрас і план аднаго з будынкаў, яна пяшчотна цмокнула Ягорава ў шчочку і пакрочыла да Савецкай плошчы. Мікола ашалела глядзеў ёй услед.

«Палкоўніку Сонцаву С. В. Службовая запіска. У выніку следчых дзеянняў намі быў зафіксаваны кантакт Ягорава Мікалая Яўсеевіча, грамадзяніна РБ, з прадстаўніком тэрарыстычнай ісламскай групоўкі Аленай Іванаўнай Хусам (у дзявоцтве Пятрэнка). Ягораў М. Я. прапанаваў названай арганізацыі купіць план замініраваных у гады ВАВ будынкаў горада Гродна. У час перадачы плана А. І. Хусам заўважыла з'яўленне прадстаўнікоў сілавых структур і прывяла ў дзеянне пояс шахіда. У выніку выбуху загінулі Ягораў М. Я і Хусам А. І. Некалькі нашых супрацоўнікаў атрымалі раненні. План мініравання будынкаў не захаваўся. Начальнік інфармацыйна-аналітычнага аддзела маёр Сівец».

# Скрыган

Андрэй ФЕДАРЭНКА


Ян Скрыган

**1**

Можна марыць пабудаваць дом, можна адчуваць у сабе талент дойліда, архітэктара, — але калі ты будзеш бляытаць «пілу з напільнікам» (як кандыдат у лаўрэаты Нобелеўскай прэміі пісьменнік-філосаф Дзмітрый Меражкоўскі), сякеру з секачом, малаток з малаткарняю, дык, само сабою, мара гэтая ніколі не здзейсніцца.

Каб пабудаваць дом, хату, хлеў ці нават сабачую будку або звычайную шпакоўню, трэба ведаць, як абыходзіцца з самымі элементарнымі прыладамі працы: сякераю, рубанкам, малатком, цвікамі і г.д.

Тое самае ў літаратуры. Можна мець багаты жыццёвы вопыт, можна вывучацца ў розных універсітэтах, можна пакутваць душою — словам, адчуваць у сабе ўсе неабходныя для пісьменніцкага рамяства атрыбуты. Але вось жа! — чамусьці не атрымоўваецца не тое што прыгожы архітэктурна-літаратурны палац, а нават касабокая, прымітыўная «сабачая будка». Прычына адна — няведанне, як карыстацца прыладамі працы. У нашым «пісьменніцкім» выпадку гэта — мова. І як цясляр, сталяр, будаўнік валодае сякерай, рубанкам, кельмаю, так і пісьменнік павінен старацца да аўтаматызму авалодаць моваю.

Пасля арміі давялося мне працаваць нейкі час у вясковай, багатай на кніжны фонд бібліятэцы. Быў ужо сякі-такі жыццёвы вопыт, была начытанасць, было неадольнае жаданне «выйсці на людзі» з якім-небудзь, хоць і малюсенькім, мастацкім творам. І разам з тым нават прыблізна не ўяўлялася, як гэта робіцца. («З чаго пачаць?!» — адчайна ўсклікваў у адным са сваіх ранніх вершаў Анатоль Сыс.)

Канечне, у чалавека ёсць лёс. Ёсць над ім Бог, які апякуецца, каб чалавек пайшоў менавіта такім і ніякім іншым шляхам. Бо нездарма ж у хвіліны найбольшых душэўных пакутаў выкалупнуўся з паліцы не першы, а менавіта другі том Яна Скрыгана. І, канечне, нездарма адкрыўся на «Думках аб мове», «Чарах слова», «Майстэрні». Адчуванне было, нібыта мяне ўзялі за руку і вывелі з цёмнай, непралазнай глушэчы, дзе я безнадзейна блукаў, на сонечную паляну, адкуль ужо рукой падаць і да жаданай, цупкай дарогі.

**2**

*«Кожны народ павінен аберагаць сваю мову больш, чым граніцы, бо мова — галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе яго цытадэлі».*
(Ірландскі вучоны Дэві.)

У снежні 1986 года ў новым тады Доме творчасці «Іслач» адбываўся першы пасля «Караліshчавічаў» семінар маладых літаратараў. Гэта было штосьці незвычайнае. Дзясяткі выдатных пісьменнікаў, жывых класікаў, вядомых нам раней толькі па школьных ды універсітэцкіх падручніках. В. Быкаў, І. Шамякін, П. Панчанка, Н. Гілевіч, І. Чыгрынаў, Б. Сачанка, Г. Далідовіч, С. Грахоўскі, І. Навуменка... І іх можна бачыць, можна атрымаць ад іх аўтограф, можна нават, калі пашанцуе, пачуць з іх вуснаў ацэнку і сваёй творчасці.

У фае — не праціснуцца. На сталах поўным ходам распрадаюцца беларускія кнігі. Найдаўжэйшая чарга туды, дзе творы В. Быкава. Прыткнуўся ў самы канец той чаргі і я. Але тут на суседнім стале ўвагу маю прыцягнуў прыгожы двухтомнік у супервокладцы. Ян Скрыган. Кнігі толькі-толькі выйшлі. І якія ж дарагія! Больш за пяцёрку. Усе мае студэнцкія зберажэнні разам з кашальком. Наўрад ці, прызнаюся шчыра, купіў бы іх, каб раптам спінаю не адчуў на сабе нечы пагляд. Паварочваюся — каля сцяны... мой кумір уласнай персонаю! Такога ж, як я, невысокага росту, стаіць і назірае за мной праз акуляры. Цяпер, калі прайшло амаль сорак гадоў, я магу памыляцца, але тады падалася мне ў тым позірку і просьба, і надзея, і гонар, што хтосьці можа цікавіцца не адным Быкавым, а яшчэ і такім дарагім двухтомнікам. Канечне, усе сумненні разам адпалі. Я ўзяў кнігі і пачаў расплачвацца.

— Вы праўда збіраецеся купляць? — сказаў Ян Аляксеевіч. — Мо вы чыталі мяне раней?

— Чытаў, і даўно вас вельмі люблю.

Прыязная ўсмешка знікла з яго твару.

— Як гэта «люблю»? — суха спытаў Скрыган. — Можа, вы хацелі сказаць «даўно люблю вашую творчасць»?

Вось тут і далягаеў да мяне, як да Ю. Алешы некалі, «гук невядомага інструмента», якім карысталіся тыя, для нас ужо легендарныя, пісьменнікі страшэнна далёкіх 20-х. Перада мною стаяў чалавек з іншага свету, з ім нельга было гаварыць так, як мы, пачынаючыя літаратары, адзін з адным гаварылі. Я зразумеў, што значыла для яго нават адно-адзінае няправільна, нязграбна ўжытае слова. Дзевятнаццаць гадоў пакут, арыштаў, допытаў!.. Міжволі зразумееш цану Слова, якое можа выратаваць, а можа і безнадзейна пагубіць. Я зрабіў чарговае глупства — пачаў апраўдвацца.

— Прабачце, Іван Аляксеевіч, я не зусім добра ведаю родную мову...

— Як так?!

— Бачыце, я родам з Мазыршчыны, у нас іншае маўленне, і лексіка.

— Няўжо такая кепская мова? — яшчэ больш строга спытаў Скрыган. — А ваш зямляк Мележ як пісаў на ёй?

Я не ведаў, куды падзецца ад сораму. Я думаў, чалавек будзе рады, што вось купілі такую дарагую яго кнігу, і за гэта прапусціць міма вушэй любую недарэчнасць, тым больш нявінны моўны «ляп». Ведама ж, тонкі псіхолаг Іван Аляксеевіч выдатна зразумеў сітуацыю:

— Хадземце да мяне ў пакой. Падпішу кнігі. І дайце, калі ласка, пачытаць штосьці сваё.

**3**

Назаўтра раніцаю ў сталоўцы Ян Аляксеевіч аддаў мне апавяданне. Акрамя рукапісу ў папцы яшчэ ляжаў ліст.

— Насупраць аднаго слова я нават паставіў плюсік, — сказаў ён. — Вось гэтае — «выдаўжыўшы» ногі. Ніколі раней такога не чуў. А казалі, кепская мова.

Апавяданне ўсё спрэс было пакрэслена алоўкам — які халодны душ пасля «маладосцеўскай» пахвальбы! І нічога ўжо нельга паправіць — вось-вось павінен выйсці часопіс менавіта з гэтым апавяданнем.

У вялікім, на цэлую старонку, напісаным дробным, вельмі выразным і прыгожым каліграфічным почыркам пісьме было амаль усё тое, што я чытаў у «Майстэрні», у «Чарах слова», у «Думках аб мове», у «Ненадрукованых апавяданнях». Усё тое, што, як думалася раней, я завочна засвоіў на «пяць». Аказваецца, мала тэорыі, трэба практыка і практыка. Плюс упартасць. Ян Скрыган цалкам справядліва адзначаў расцягнутасць апавядання, слабы дынамізм, рыхлую кампазіцыю, невыразнасць галоўнага героя... «І потым: няма такой думкі, такой з'явы, такога эпізоду, якія нельга было б выказаць на 6 — 7 старонках. Тады навошта Вам для таго ж самага спатрэбілася ажно 16 старонак?..»

(Ліст той, запабягаючы наперад, у час летніх канікулаў, калі нашыя інтэрнатаўскія пакоі засяляліся абітурыентамі, укралі — укралі разам з падпісаным двухтомнікам, куды яно было ўкладзена, укралі разам з новымі румынскімі туфлямі, разам з масіўным залатым пярсцёнкам, які я знайшоў на вуліцы і збіраўся здаць у скупку на Батанічнай. У шафе валяліся толькі дзве супервокладкі. Ніякіх іншых кніг больш не ўзялі, а было іх у пакоі каля паўсотні, і з аўтографамі таксама.)

У той жа дзень разбіралі нашыя апавяданні. «Прэзідыум» на сцэне занялі вядомыя пісьменнікі. Мы, пачаткоўцы, у зале. Хаця мушу сказаць, што слова «пачаткоўцы» не дужа нас характарызавала. Публіка там сабралася яшчэ тая. Крыўдна, непрыемна было слухаць, як некаторыя маладыя (ніхто з іх так і не застаўся потым у літаратуры) нападалі чамусьці менавіта на Яна Скрыгана.

— Колькі можна насіцца з гэтай моваю! Мова — другаснае! Задача для нас цяпер — вярнуць чытачоў, якіх вы, старэйшыя, паспяхова ад сябе адвярнулі! Змест, сюжэт — вось галоўнае! Твор павінен быць нацыянальны на форме і нацыяналістычны па змесце! (Так дазвалялася ўжо тады гаварыць.)

Ян Аляксеевіч раз за разам мусіў падымацца і адказваць на падобныя закіды і рэплікі. Ён выглядаў разгубленым. Яшчэ б. Тлумачыць будучым пісьменнікам такія рэчы, як неабходнасць валодання моваю! Нехта, здаецца, Яўген Лецка, назваў маё прозвішча. Ян Аляксеевіч ажывіўся.

— А тут якраз адваротная сітуацыя. Нібыта і мову ведае, нібыта і сюжэт стараецца выбудаваць... Але колькі ж лішноты! З шаснаццаці старонак там варта пакінуць максімум шэсць...

— Я згодзен, згодзен! — закрычаў я з залы, спалохаўшыся, што зараз пачнецца публічны разбор, ці, лепш сказаць, разнос, як у «Ненадрукованых апавяданнях». — Я ўсё зразумеў, папраўлю!

— А вы не спяшайцеся, — марудна азваўся Уладзімір Дамашэвіч. — Вы вельмі лёгка з усім і з усімі згаджаецеся. — І да Скрыгана: — Апавяданне чытаецца натуральна?

— Чытаецца натуральна.

— Дык навошта рэзаць?

Ізноў паляцелі з'едлівыя рэплікі з залы — ужо ў маю абарону. Ян Аляксеевіч сумеўся.

— А пісьменнік будзе, — сказаў ён крыху недарэчы. — Добры пісьменнік! (Прашу прабачэння за нясціпласць, але менавіта гэтыя словы прагучалі.)

З самымі супрацьлеглымі думкамі, з поўнай кашай у галаве вяртаўся я з семінара. Не тое, што мая вера ў праваду любімага пісьменніка пахіснулася — не; проста паралельна ўзнікла яшчэ адна, я б назваў яе — «дамашэвіцкая» вера. А самае галоўнае, прыкра было, што не скарыстаў моманту, не сказаў Яну Аляксеевічу тых слоў, якія павінен быў сказаць, не пакланіўся яму, не падзякаваў за «кніжную» навуку, не выпіў з ім, урэшце, па сто грам. Мо калі б я расказаў яму хоць кароценька пра сваё жыццё, пра тое, што менавіта ў яго творах знайшоў для сябе паратунак — мо ўсё інакш склалася б? А цяпер у яго памяці я застануся адным з тых крыкуноў з залы; цяпер ён мяне, мабыць, увогуле не стане чытаць.



Вокладка згаданага двухтомніка, выданне 1985 года

**4**

Другая сустрэча адбылася гадоў праз шэсць, на нейкай вечарыне ў Доме літаратара. Я, малады, шчаслівы, крыху п'яны, трымаючы за руку каханую дзяўчыну, прабіраўся між крэслаў, шукаючы, дзе сесці. Раптам мяне паклікалі. Ян Скрыган! Ані не змяніўся знешне. Смяецца.

— Ян Аляксеевіч?! Няўжо вы помніце мяне? Які я рады!

— Я таксама вельмі ***рад*** (і тут паправіў!), што вы незлапомны.

— Ян Аляксеевіч, дарагі...

— Я рэгулярна сачу за вашымі поспехамі ў друку.

— Ды якія яшчэ «поспехі»! — перабіў я і, каб змяніць тэму, прызнаўся: — А ведаеце, я не збярог ні кніг з аўтографамі, ні ліста. Укралі!

— Праўда? Як хацелася б, каб у нас у жыцці былі толькі такія страты. Для пісьменніка найвышэйшы гонар, калі яго кнігу крадуць ці не здаюць у бібліятэку. Што да ліста — дык мо яно і лепш? Што ён прапаў... Мо ў тым якісь сімвал?

— Дык шкада вельмі.

— Не шк**а**да, а шк**о**да, — смеючыся, ізноў паправіў Скрыган. — А я напішу вам новы!

Не напісаў. Праз год яго не стала. І я ўжо ніколі не даведаюся, як ацаніў бы ён, скажам, аповесць «Нічые», дзе я ўрываюся ў чужыя палесціны — апісваю любыя яго сэрцу Слуцк і Случчыну. У яго апавяданне «Дакументальная рэвізія», а ў мяне раман «Рэвізія». Галоўны герой рамана — Трухановіч, а родная вёска Яна Скрыгана — Труханавічы.

У пасмяротным выданні яго дзённікаў я прачытаў, што Ян Аляксеевіч апошнія гады хварэў на рак, моцна пакутаваў. Цяжка чытаць яго дзённікі. Аптымізму там няма і знаку. Але тады, у час нашай апошняй сустрэчы — пабажыцца гатовы! — ён бачыў ува мне сябе 20-гадовага. Ён радаваўся чужой маладосці, чужой радасці, чужому поспеху як сваім уласным.

Такім — асветленым, радасным — і застаўся ў маёй памяці.

***2005, 2023 гг.***

# ПАВОДЛЕ ДЭКРЭТА 2088 ГОДА, альбо З КАГО СМЯЕМСЯ?

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

Класічнасць — як боскасць: непадуладная часу. Класіка адказвае на вечнае пытанне: "Як жыць?". Аднак чалавечая памяць, асабліва ў народаў паняволеных, кароткая. І таму класіка — вечная. Кожнае пакаленне наноў звяртаецца да айчынных творцаў з адвечным: "Як жыць?".

Камедыя «Пінская шляхта» паўстала, як сцвярджаюць літаратуразнаўцы, з-пад пяра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў скрутна-шчаслівым 1866 годзе. Напачатку ці напрыканцы яго — невядома. Ведама толькі, што перад тым камедыёграф свой 57 год нараджэння **(Вінцэнт-Якуб Дунін-Марцінкевіч прыйшоў у свет 215 гадоў таму 4 лютага 1808-га)** адзначыў у турме: ад кастрычніка 1864 па Каляды 1865 па́рыў мулкія нары ў менскім «Пішчалаўскім замку». Дык верагодней за ўсё там, дзе ўлетку 1911-га ў Якуба Коласа вырвалася выпакутаванае «Мой родны кут, як ты мне мілы...», у той самай царскай катоўні паўстагоддзем раней пачынальнікам новай беларускай літаратуры выношвалася бліскучая сатырычная «Пінская шляхта».

Сумнеўна, праўда, каб пісьменнік меў магчымасць штодня трымаць сціло і жыць на творчым уздыме. Бо Вінцэнт дзень і ноч чакаў — чым скончыцца зняволенне: кантрыбуцыйным налікам, высылкай у «Сібір» ці чымсьці жахлівейшым?

Як адкупіцца ад таго? Як збавіцца? Не пацерамі належала вымольваць збаўленне... Бо вырашалі твой лёс не нябёсы. Чужынцы ў вайсковых пагонах выносілі выракі на абшарах Літвы-Беларусі над ваколічнай шляхтай, якая «бачыла бойку, але не бараніла» расійскае самадзяржаўе ад «палячишек», і якая «не бачыла бойкі, за тое што не бачыла...».

Удзелу Дуніна-Марцінкевіча ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні ліцвінаў-беларусаў супраць акупацыйнага рэжыму следчыя не давялі. Але як пакінуць беспакаранага таленавітага чалавека, якому прыпісваюцца бадай усе антыўрадавыя вершаваныя адозвы на тутэйшай «простай гаворцы»?! І «гутаркі» тыя не простыя, «бяскрыўдныя графіці», як здаецца на першы погляд, а больш пагрозныя, чым пякучыя лісткі «Мужыцкай праўды». Бо... лоўка рыфмаваныя! Значыць, лягчэй застаюцца ў памяці неадукаванага насельніцтва.

Так, гісторыкі падлічаць: за стагоддзе інкарпарацыі Літвы-Беларусі ў складзе расійскай імперыі непісьменнасць (да 1897 г.) на «забраных землях» узнялася з 40 да 77 адсоткаў! («Акультурыліся людзі!» — рэзюмаваў пра тое Уладзімер Караткевіч, «дасціпны і праўдзівы» нават у падсавецкія часы). А дзе пануе непісьменнасць — там валадарыць цемра, невуцтва, затурканасць і забітасць. Тады ад страху можна й не ведаць, пад якім царом жывеш, якім «дэкрэтам» кіруешся... Непісьменнасць — сінонім «несвядомасці».

Класіка ствараецца найчасцей у адчайным баруканні прыгожага з брыдотаю, узвышанага і нізкага, акрыленасці з зацуглянасцю. І чым мацней (да безнадзейнага!) перашкоды, тым велічнейшым атрымліваецца ўзлёт духа.

Можа, у тых цагляных лёхах і дачуўся 56-гадовы астрожнік пра тое, чаго не ведае пакуль аніводзін айчынны даследчык-архівіст і гісторык-літаратуразнаўца... Што нават крывавы Мураўёў-Вешальнік пайшоў... на хабар! Праўдзіва, колькі можна вешаць-расстрэльваць задарма? Таму і хапануў расійскі генерал-губернатар-«людажэр» 15 тысячаў срэбранікаў за «дараванне жыцця» двум тубыльцам — тутэйшым шляхціцам Аскерку і Яленскаму. (Пра гэта сцвердзіла ў сваіх ненадрукаваных мемуарах Апалонія Далеўская (1841 — пасля 1915), удава Зыгмунта Серакоўскага (1827—15.06.1863, Вільня), які камандаваў паўстанцкімі ўзброенымі сіламі Літвы (пад вайсковай мянушкай Далуга); параненым быў узяты ў палон, павешаны ў Вільні. Падчас пакарання крывавы Мураўёў змушаў Апалонію, на той час ужо цяжарную, назіраць за экзекуцыяй мужа...)

Можа, і Вінцэнт выблытаўся з «Пішчалаўскага замка» («Валадаркі» па-сучаснаму) гэткім макарам? Нездарма на старонках «Мужыцкай праўды» Кастусь Каліноўскі выказаўся пра тагачасных службоўцаў: «А чыноўнікі то маскоўскія — яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў ксёнжках, што ёсць на свеце якась саранча, катора як гдзе пакажацца, усю худобу гаспадарску зглуміць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія з сваёю «праўдаю» і «справядлівасцею», яны людзі вельмі здатныя, што то па-маскоўску «праворныя», умеюць так абласкаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі як маці радзіла — і жывы пад гэтакім рондам без суду і праўды....».

Згодна з прысудам палявога аўдытарыята ў асобе памочніка Вешальніка, генерал-лейтэнанта Манюкіна, В. Марцінкевіча не саслалі. І нават фальварак не канфіскавалі. Толькі нібы той Кручкоў абдзёрлі, прыпячатаўшы: «Пакараць грашовым штрафам, спагнаўшы з ягонага маёнтка не толькі за яго самога, але і за жонку ягоную, што ўдзельнічала ў дэманстрацыях, узмоцнены збор».

«Чалавек без пакутаў — трава» (Васіль Быкаў). Адпакутаваўшы больш года ў турэмнай катоўні, пісьменнік выйшаў з казематаў загартаваным. Пусціўшы з каменных сутарэнняў, царызм не выпусціў дарэшты пісьменніка са сваіх учэпістых лапаў і пільнай «апекі»: вайскова-палявы вырак пастанавіў шматгадовы (таемны) паліцэйскі назірк над ім у Люцінцы.

Мілая сядзіба ператварылася ў жандарскі астрог. Ды ведама: дома і родныя сцены натхняюць! Не прадбачылі маскальскія сатрапы, што такому няўрымсліваму творцу, як Дунін-Марцінкевіч, «аселасць» толькі ў руку! Што яна паспрыяе заканчэнню неўміручай «Пінскай шляхты» — найпершаму



Фота vedaj.by

Магіла В. Дуніна-Марцінкевіча каля капліцы-ўсыпальніцы роду Жаброўскіх у былым урочышчы Тупальшчына (Валожынскі раён).

яркаму антыкаланіяльнаму твору ў беларускай камедыяграфіі. «Каранцін» (горка такое й дапускаць!) пайшоў на карысць.

Штосьці падобнае намагаліся засведчыць «вернападданыя» сябры Пушкіна ў лёсе расійскага генія... А літаратурны наступнік Дуніна-Марцінкевіча, паэт Максім Танк, у сваіх дзённіках рэфлексаваў: «Можа, і слушна калісьці іспанскі кароль на пытанне французскага караля, як жыве Сервантэс, адказаў: "Бяда і нястача спрыяюць развіццю таленту". У нас гавораць: "Галодны певень раней спявае". Але ж нам вядома, "колькі талентаў звялося" ў цяжкіх умовах нястачы і няволі»...

Апроч праблем непісьменнасці, дзікай забітасці, запалоханасці з рэліктамі ганарыстасці і пыхі (ясная рэч, не толькі ў пінскай ваколічнай шляхты) — карацей, з усім тым, што можна аб'яднаць паняткам «выміранне», «дэградацыя» тутэйшага нобільства, апроч зацяганай тэмы выкрыцця хабарніцтва прышлых чынадралаў, камедыёграф у «Пінскай шляхце» закрануў яшчэ і з'яву новую: правакатарства расійскага чынавенства. Бо нікчэмнасць і подласць «лапсэсара» Кручкова не толькі ў тым, што бессаромна дзярэ («спакуйтэ там хорошэнко до воза») пінчуцкія лапаны-падноскі тандэмам з памагатым Пісулькіным («покинь ваше залецанки, и бэрыса за дило; тут, брат, нам прыгоже жныво»), але ў фінальнай сцэне пад'юджвае палескіх тубыльцаў на новую бойку. Як было справакавана заўчасным рэкруцкім наборам («бранкаю») само Студзеньскае паўстанне ў Варшаве ў няспрыяльную студзёную пару пачатку 1863 года. Мовай ахоўнікаў-цэрбераў з сумнавядомага III Аддзялення гэта звалася «ускрыць гнілую варшаўскую рану», каб не «памёр» увесь польскі арганізм. «Памёр» — у сэнсе адарваўся ад «адзінай Расіі». Вялікай і непадзельнай. А новая бойка (без розніцы: над варшаўскай Віслай, пад Мілавідамі, на Палессі ці дзесь у гарах з Шамілем) — гэта не толькі сабе, але й дзецям сваім нязводнае «жніво».

Арыштанцкі досвед праўдзіва неацэнны: адзін год ідзе за дзесяцігоддзе. Або нават за пажыццця. Не кажучы, колькі новых сюжэтаў, калізій можна пабачыць, пачуць і самому стаць сведкам чалавечай годнасці і мярзотнасці. Усё гэта настолькі ярка, зіхатліва, таленавіта і дасціпна, па-наватарску смела, карнавальна да неверагоднага змясцілася менш чым на 20 старонках «Пінскай шляхты», што больш чым праз стагоддзе ад напісання ў Дуніна-Марцінкевіча паспрабавалі адабраць аўтарства камедыі (гл. аб тым: Мечковская Н. Винцент Дунин-Марцинкевич не был автором водевиля Пинская шляхта // Wiener Slawistischer Almanach. 2000. Band 46. С. 225–238).

Упершыню аўтэнтык «Пінскай шляхты» пабачыў свет у «Творах» В. Дуніна-Марцінкевіча (1984), дзе быў змешчыны як «Дадатак», паколькі на момант правядзення графалагічнага доследу Навукова-даследчым інстытутам судовых экспертызаў адносна прыналежнасці рукапіса пяру камедыёграфа аднатомнік цалкам быў падрыхтаваны да друку. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» пад кіраўніцтвам тагачаснага асветнага дырэктара Міхала Дубянецкага (1927–1990) пастанавіла апублікаваць «аўтэнтык», тым самым увеўшы гэты рукапіс у навуковы абыход яшчэ ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Розначытанне аўтэнтыка (Грыцько — Грицько, Марыся — Марися і інш.) вытрымана з прычыны магчымага творчага прыёму: «Разам з сюжэтнай фабулай драматург бліскуча разыграў і мову сваіх герояў, дзе спалучыліся рысы палескіх гаворак, беларускай і ўкраінскай моў».

Класічнасць — як прароцкасць: будучая моўная кантамінацыя (засмечванне) з вуснаў прышлых кручковых XXI стагоддзя (без розніцы: пачынальнікам новай беларускай літаратуры пінскіх ці магілёўскіх) геніяльна прадбачылася яшчэ ў пазамінулым веку. Уніфікаваць жа непаслядоўнасць у цудам ацалелым арыгінале «Пінскай шляхты» Дуніна-Марцінкевіча — як папраўіць указ «Петра Великого, в 1988 году марта 69 дня последовавшего» на 1688 год. Што і зрабіў быў у 1984 годзе выдавецкі рэдактар, лічачы сябе мудрэйшым за вялікага папярэдніка — класіка айчыннай літаратуры Вінцэнта, сына Яна, Дуніна-Марцінкевіча...

Да высокага 200-гадовага юбілею В. Дуніна-Марцінкевіча выйшла кніга «Класіка» (Мінск, Выдавец Віктар Хурсік, 2008), у якой апублікаваны «кананічны» аўтэнтык «Пінскай шляхты». Пераклад выдатнай камедыі на ангельскую, нямецкую і польскую мову адмыслова для гэтага выдання (расійскі пераклад Івана Бурсава паўстаў у 1980-х) здзейснілі адпаведна Вера Рыч і Дамінік Янушкевіч (Vera Rich не толькі пераклала вершаваныя спеўкі, але адрэдагавала ўвесь ангельскі тэкст); Моніка Цуліг-Банькоўскі (Monika Bankowski-Zuellig; паходзіць з нямецкамоўнай часткі Швейцарыі), а таксама прапрапраўнучка В. Дуніна-Марцінкевіча — Барбара Крыжаньская-Чарнавеская (Barbara Krzyzanska-Czarnowieska; нарадзілася ў Кракаве). Рэдакцыю польскага тэкста выканаў варшаўскі перакладчык Чэслаў Сэнюх (Czeslaw Seniuch). Практычна скончыўшы ў Анціёху ля Чыкага (штат Ілінойс у Злучаных Штатах Амерыкі), 18 лістапада 2004 года польскі пераклад гарэзнай камедыі свайго ганаровага продка, Барбара, не могучы выйсці з-пад прадзедавых чараў, перасылаючы тэкст мне ў Ракаў, прыпісала постскрыптум: «Паводле загада № 457, параграфа 12, з дня месяца красавіка, года 2000 ад нараджэння Хрыста — Найяснейшаму Прыяцелю майму Язэпу Янушкевічу, якому давядзецца заплаціць 100 рублёў на кошт Музея Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, і ўласных коштаў (на паперу тут скарыстаную) капеек 13».

Таму шкада, што на паседжанні Арганізацыйнага камітэта, створанага на ўрадавым узроўні для падрыхтоўкі святкавання юбілею Беларускага Дудара хоць і прагучала прапанова пра будаўніцтва хаціны-музея ў Люцінцы, пра які Барбара гэтак марыла, аднак нават да 200-годдзя з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча мы яго не прычакалі. І калі прычакаем? Ці толькі пра грошы-мільёны тут ходзіць? Прыязджала ж ахвярна ў красавіку 2005 года Барбара на Бацькаўшчыну (прароча прызнаючыся мне ў свае 50 гадоў, што яна тут апошні раз), і вяла перамовы, каб распачаць збор ахвяраванняў на Музей у Люцінцы. Не атрымалася. Бо, кажучы моваю Кручкова, «дэкрэтам Гора Шклоўскага ад 2088 года», прыватныя асобы, хай сабе й сваякі, не маюць права займацца мемарыялізацыяй спадчыны творцаў, а толькі «дзяржаўныя структуры». Зрэшты... Захоўвае ж колішні настаўнік Івянецкай школы спадар А. Раманоўскі квіток ад 18.08.1988 года на перавод Беларускаму Фонду Культуры 20 рублёў, зробленых і ахвяраваных школьнікамі на пабудову будучага музея ў вёсцы Малая Люцінка Валожынскага раёна. Жарты сказаць: дзесяцігоддзі зляцелі, а хаты-музея няма...

Дык з каго мы пацяшаемся ў смяхотнай «Пінскай шляхце»?

***P.S.*** Ці хто з даследчыкаў, гартаючы-чытаючы-аналізуючы больш стагоддзя «Пінскую шляхту», угледзеў, як ведае альфабэт хабарысты правакатар Кручкоў? А, б, в, д, г... Зрэшты, «Найяснейшая Карона» дазваляе сабе й не такое ў трактаванні ўказаў. І ў нашым XXI стагоддзі можна канстатаваць нявывучанасць альфабэта айчыннай гісторыі... Што ж, класіка — нават у адной «непаслухмянай» літары — КЛАСІКА!

# Каралева Даніі і прэмія імя Андэрсана

Каралева Даніі Маргарыта ІІ вырашыла больш не патранаваць прэстыжную прэмію імя Андэрсана, бо старшынёй журы была абраная ілюстратарка з Расіі Анастасія Архіпава.

Старшынства А. Архіпавай зацвердзіла Міжнародная асацыяцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва (IBBY). Новы кіраўнік камісіі не толькі ілюстратарка, малюнкі якой пазнаюць многія дзеці, што выраслі ў Савецкім Саюзе. Яна таксама прафесар Маскоўскай акадэміі выяўленчых мастацтваў, прэзідэнт Саюза ілюстратараў, а таксама член праўлення Маскоўскага таварыства мастакоў. Арганізацыя аб'ядноўвае мастакоў, якія стварылі прапагандысцкія ролікі і мемы, якія павінны папулярызаваць расійскую «спецыяльную аперацыю» і кампанію мабілізацыі насельніцтва. Напрыклад, у інтэрнэце можна знайсці плакаты, на якіх расійскі салдат намаляваны як гераічны мсціўца, які карае ўкраінскіх «нацыстаў», пішуць дацкія СМІ.



Каралева Даніі Маргарыта ІІ

Фота Scanpix

Рашэнне каралевы Даніі і старшынства А. Архіпавай раскалолі IBBY на два лагеры і паставілі пытанне, ці можа прадстаўнік расійскага культурнага жыцця ўручаць адну з самых прэстыжных літаратурных прэмій у свеце, калі Расія бомбіць бібліятэкі ва Украіне. Некалькі дзяржаў-членаў IBBY, у тым ліку Швецыя, дамагаліся адстаўкі А. Архіпавай, спасылаючыся на «ролю Расіі ў канфлікце ва Украіне». Па словах старшыні шведскага аддзялення IBBY Маргарэты Ульстрём, прэмія «рызыкуе быць азмрочанай прызначэннем».

Як стала вядома, нядаўна Анастасія Архіпава вымушана была пакінуць пасаду старшыні журы прэміі.

# 500 еўра на культуру. Кожнаму...

Вядомую італьянскую дзяржпраграму «18app», што з 2016 года фінансуе 18-гадовых італьянскіх падлеткаў, якія могуць патраціць выдаткаваныя ім грошы на кнігі ды іншую культурную прадукцыю, падоўжылі і на 2023 год. Сёлета сума на культурны рахунак складзе 500 еўра. Пры гэтым, як адзначае выданне «Publishing Perspectives», італьянскія падлеткі выдаткавалі на кнігі ў мінулым годзе не проста больш за палову, а 80% ад выдзеленай сумы. З 220 мільёнаў еўра, выдаткаваных на праграму, такім чынам, кніжнаму бізнэсу дасталося 176 мільёнаў.




У даследаваннях 31% апытаных сказалі, што яны чытаюць больш, чым чыталі да атрымання фінансавання, а 25% рэспандэнтаў заявілі, што набываюць больш, чым раней. Толькі 13% атрымальнікаў дапамогі заявілі, што чытаюць ці набываюць менш, чым раней.

Правыя, якія прыйшлі ў Італіі да ўлады, тым не менш, плануюць скарэктаваць праграму ў 2024 годзе: выплачваць бонус толькі падлеткам з малазабяспечаных сем'яў, а таксама тым, хто добра здаў выпускныя іспыты.

А ў Нямеччыне падлеткам, якім у 2023 годзе споўніцца 18 гадоў, падораць «пропуск» (KulturPass) у памеры 200 еўра на культурныя падзеі. На гэтыя сродкі ўдзельнікі праграмы змогуць купляць білеты ў музеі, наведваць канцэрты і кінатэатры, а таксама купляць кнігі ці пласцінкі.

# «У мэтах арганізацыі... працы»

«Міністэрства адукацыі і навукі Луганскай народнай рэспублікі» загадала падрыхтавацца да выключэння з бібліятэчных фондаў літаратуры экстрэмісцкага характару, паведаміла istpravda.com.ua. «У мэтах арганізацыі і правядзення працы па адборы з бібліятэк адукацыйных арганізацый ЛНР літаратуры экстрэмісцкага характару, якая адлюстроўвае ідэалогію ўкраінскага нацыяналізму, міністэрства ЛНР просіць забяспечыць поўную праверку і вываз літаратуры з бібліятэк ЛНР па спісе», — гаворыцца ў дакуменце. Канфіскацыі падлягае літаратура, прысвечаная Галадамору, падручнікі і дапаможнікі па гісторыі Украіны, а таксама коміксы для дзяцей і падлеткаў. Такія выданні павінны складвацца асобна ў скрыні ці мяшкі і апячатвацца.

# Крадзеж 1000 рукапісаў...

Італьянец Філіпа Бернардзіні прызнаўся ў крадзяжы больш за 1000 неапублікаваных рукапісаў, атрыманых махлярствам ад розных пісьменнікаў. Пра гэта стала вядома таблоіду Guardian. 30-гадовы мужчына прызнаў сябе вінаватым у махлярстве пасля абвінавачання федэральнай пракуратурай Нью-Ёрка.

У літаратурных колах ашуканец быў вядомы некалькі гадоў, але толькі ў 2022-м ФБР затрымала яго ў нью-ёркскім аэрапорце імя Джона Кенэдзі.

Ф. Бернардзіні працаваў у выдавецтве Simon & Schuster і выкарыстоўваў інсайдэрскую інфармацыю для атрымання прыбытку. Ён адпраўляў электронныя лісты пісьменнікам з падробленых акаўнтаў, выкарыстоўваючы даменныя імёны сапраўдных выдаўцоў, змяняючы некаторыя сімвалы. Па версіі следства, мужчына стварыў больш за 160 такіх паштовых скрынь. Пісьменнікі ды іх прадстаўнікі паверылі зламысніку, даслаўшы яму матэрыял па электроннай пошце. Сярод ахвяраў былі такія вядомыя аўтары, як Маргарэт Этвуд, Іэн Макьюэн і Салі Руні.

Матывы дзеянняў Філіпа Бернардзіні застаюцца загадкай, бо ён ніколі не патрабаваў з аўтараў грошай у якасці выкупу, а скрадзеныя тэксты не размяшчаліся ні ў адкрытым доступе, ні ў даркнэце. Ён пагадзіўся выплаціць 88 000 даляраў у якасці рэстытуцыі, але яму пагражае да 20 гадоў пазбаўлення волі паводле заканадаўства ЗША. Федэральны суд Манхэтэна павінен вырашыць лёс італьянца 5 красавіка.

# «Паэтычная вясна»

Саюз пісьменнікаў Літвы паведаміў, што Віленскі акруговы суд задаволіў скаргу грамадскай установы «Фонд Саюза пісьменнікаў» аб адмене рашэння Рады культуры Літвы ад 12 траўня мінулага года аб нефінансаванні выдання альманаха «Паэтычная вясна 2022».




Фота 123RF.com

Паводле паведамлення, Савет культуры Літвы, згодна з рашэннем суда, ужо пералічыў суму, прызначаную на выданне альманаха. Саюз пісьменнікаў Літвы абяцае, што неўзабаве разлічыцца з усімі арганізатарамі і аўтарамі альманаха, а ахвяраваную на выданне альманаха суму дабрачынцаў накіруе на пражыванне пісьменнікаў з Украіны ў Вільні.

# Рукапісны «Рэквіем» Ахматавай

Аўкцыённы дом «Літфонд» правёў таргі, самымі дарагімі лотамі якіх сталі рукапісны «Рэквіем» Ганны Ахматавай і рукапісная кніга Аляксея Рэмізава, выдадзеная ў Парыжы.

Аўтарскі рукапіс «Рэквіема» Г. Ахматавай быў прададзены на аўкцыёне за 1,1 мільёна расійскіх рублёў.

У верхняй частцы тытульнага аркуша «Рэквіема» пакінуты дароўны надпіс: «Леве от мамы в день ангела 12 января 1958 г.», «Окончательный текст, отменяющий все предыдущие».



Калі «Рэквіем» быў напісаны, Ганна Ахматава нікому не давала яго перапісваць, а толькі дазваляла чытаць свой уласны экзэмпляр у суседнім пакоі. Паказальна, што ў вершах паэтэсы 1938 года «Ціха льецца Ціхі Дон...» ёсць разыходжанні з афіцыйна апублікаваным тэкстам паэмы: у прыватнасці, пасля радкоў «эта женщина больна» ў дужках прыпісана «как и вся её страна».

# Ілжывае самагубства

У верасні 2020 года ў Facebook з'явілася паведамленне ад імя дачкі пісьменніцы Сьюзан Мічэн аб тым, што аўтарка раманаў скончыла жыццё самагубствам. У інтэрнэт-супольнасці гэтая навіна выклікала глыбокае спачуванне. «Калі мы даведаліся, што адна з нашых каляжанак пакончыла з сабой, у нас былі разбітыя сэрцы», — сказала пісьменніца Сьюзан Коўл. Затым у сацыяльных сетках пачалі распаўсюджвацца чуткі, што самагубца стала ахвярай здзекаў.

На працягу двух гадоў інтэрнэт-група адзначала гадавіну смерці Сьюзан Мічэн. Але нядаўна Сьюзан Мічэн раптам... вярнулася да жыцця. Аб тым яна абвесціла ў сацыяльных сетках, выклікаўшы шок сярод прыхільнікаў і сяброў, і прызнала, што самагубства было інсцэніраваным. «Будзе шмат пытанняў. Хай пачнецца весялосць», — напісала С. Мічэн у Facebook.

Калі высветлілася, што пісьменніца жыве больш за два гады, гэта выклікала абурэнне прыхільнікаў, паведаміла BBC. «Такое павінна адбывацца толькі ў мастацкай літаратуры. Цяпер людзі адчуваюць, што не могуць клапаціцца адзін пра аднаго, бо больш не ведаюць, што рэальна, а што не», — паведаміла Сьюзан Коўл.

Пасля фальшывага самагубства жанчына, якая выдавала сябе за дачку пісьменніцы, выкарыстоўвала ўліковы запіс Мічэн у Facebook, каб папрасіць дапамогі і скончыць апошні раман «маці».

# 6 схем сусветнай літаратуры

Навукоўцы з «Computational Story Lab» універсітэта Вермонта (ЗША) высветлілі, што ўсе літаратурныя творы пабудаваны на «чаргаванні палюсоў эмацыйнай афарбоўкі».

У сваім даследаванні яны вылучылі шэсць базавых крывых, якія ілюструюць папулярныя паслядоўнасці «ўзлётаў» і «падзенняў». У аснову свайго аналізу навукоўцы паклалі наступную ідэю: кожнае слова можна ахарактарызаваць станоўчай ці адмоўнай эмацыйнай думкай. Яны выкарыстоўвалі алгарытм «Hedonometer», у якім гэтая эмацыйная нагрузка выяўленая ў лікавым значэнні. Алгарытм дзеліць тэкст на ўрыўкі з 10000 слоў і вылічвае сярэднюю эмацыйную валентнасць. Такім чынам яны прааналізавалі 1737 тэкстаў з электроннай бібліятэкі праекта «Гутэнберг».

«Мы знайшлі набор з шасці асноўных крывых, на аснове якіх будуюцца больш складаныя наратывы», — заявілі навукоўцы. Вядома, многія творы маюць адметную пабудову, але ў цэлым асноўныя эмацыйныя крывыя выглядаюць так:

**«З гразі ў князі»** *(узлёт)*: «Аліса ў краіне цудаў» Льюіса Кэрала;

**«Трагедыя»** *(падзенне)*: «Рамэа і Джульета» Уільяма Шэкспіра;

**«Чалавек у яме»** *(падзенне-ўзлёт)*: «Чараўнік краіны Оз» Фрэнка Баўма;

**«Ікар»** *(узлёт-падзенне)*: «Рымскі Экспрэс» Артура Грыфітса;

**«Папялушка»** *(узлёт-падзенне-ўзлёт)*: «Калядная песня» Чарльза Дыкенса;

**«Эдып»** *(падзенне-ўзлёт-падзенне)*: «Герой нашага часу» Міхаіла Лермантава.

Напрыклад, эмацыйныя крывыя ўсіх кніг пра Гары Потэра будуюцца па аднолькавай схеме «з гразі ў князі» («забіць дракона»), хоць эмацыйная афарбоўка змяняецца ад сцэны да сцэны.

Раней многія літаратуразнаўцы выказваліся аб трох, сямі, васьмі і трыццаці дзвюх базавых сюжэтных схемах, якімі распавядаюць усе гісторыі, што існуюць. Курт Ванэгут, напрыклад, вылучыў восем сюжэтаў. Часткова Ванэгут прадставіў сваю тэорыю ў кнізе «Чалавек без краіны», дадаўшы туды некалькі графікаў, на якіх вертыкальная лінія азначала рух героя ад «падзення» да «ўзлёту», а гарызантальная — ад пачатку да канца гісторыі.

Пры гэтым навукоўцы адзначаюць, што эмацыйныя дугі могуць не супадаць з кампазіцыяй і сюжэтам твора.